Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 50 (4901) 16 снежня 2016 г.



Музей — дадатак да падручніка?.. 4



Розныя інтанацыі 6



Даступна ў любую хвіліну 11



Яе пазнаюць па голасе 13



Свята роднага кіно 14

# Ад рамантыкі да драмы:

## вялікае мастацтва оперы праз конкурснае спаборніцтва

Легкадумныя адносіны какеткі Разіны і закаханага Фігара, творчыя і любоўныя пакуты герояў «Багемы» Джакома Пучыні, поўныя адчаю спробы Любашы з оперы Рымскага-Корсакава затрымаць каханага, салодкая пастка чараўніц-спакусніц, у якую патрапіў Ратмір, рашучая адмова Тацціяны Анегіну, які пасталеў, трагічная арыя Ленскага і яго ракавая смерць… Мноства роляў і эмоцый змянілася на вачах засяроджанага глядача Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета падчас фіналу ІІІ Мінскага міжнароднага Каляднага конкурсу вакалістаў.

На сцэне Вялікага тэатра ішла напружаная барацьба: са 120 удзельнікаў першага тура да апошняга этапу спаборніцтва дабраліся адзінаццаць выканаўцаў. Прайсці ў фінал здолелі толькі лепшыя з лепшых, бо журы конкурсу складалася з кампетэнтных і патрабавальных мэтраў опернага майстэрства з усяго свету. Пра ўзровень канкурэнцыі сведчыць і тое, што пераможца трэцяга сезона тэлешоу «Вялікая Опера» на канале «Россия-Культура» ў фінал мінскага конкурсу не патрапіла. Мабыць, артысты на тэлебачанні і на тэатральнай сцэне вымушаны задзейнічаць розныя бакі свайго таленту? Ніякая трансляцыя не заменіць «жывое» выкананне оперных спеваў перад аўдыторыяй, і беларускі Вялікі тэатр оперы і балета зноў пацвердзіў гэтую ісціну, сабраўшы на фінальны этап конкурсу поўную залу гледачоў.

Дарэчы, дасведчаных: артысты, што ў выніку ўзялі галоўныя прызы конкурсу, першыя ўзнагароды атрымалі ад уважлівай аўдыторыі — праз авацыі і крыкі «Брава!»

Сапраўдным трыумфатарам сёлета стаў прадстаўнік Арменіі Тыгран Аганян (вядомы па ўдзеле ў «Вялікай оперы» сёлета). У фінале конкурсу ён спяваў дуэт Мімі і Рудольфа з оперы «Багема» ў пары з Аленай Бундзелевай. Акрамя Гран-пры, які ўручыў старшыня журы і генеральны дырэктар Вялікага тэатра Беларусі Уладзімір Грыдзюшка, спявак заслужыў і спецыяльныя прызы ад членаў журы — запрашэнні на праслухванні ў еўрапейскія тэатры оперы.

Лаўрэатам І прэміі назвалі расійскага спевака Андрэя Немзера. Уладальнік рэдкага мужчынскага голасу контртэнар выканаў арыю Ратміра з оперы М. Глінкі «Руслан і Людміла», крануўшы залу не толькі спевамі, але і жвавымі рухамі па сцэне сярод танцаўшчыц, абаяльнасцю і артыстызмам.

Але найбольш яркі акцёрскі вобраз стварыў беларускі тэнар Аляксандр Міхнюк. Артыст Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра Беларусі



Фота Міхаіла Несцерава.

Тыгран Аганян і Алена Бундзелева. Дуэт Мімі і Рудольфа з оперы «Багема».

пераканаўча справіўся са сцэнічнымі пакутамі Ленскага і пранікнёна праспяваў знакамітую арыю, кранўшы публіку і журы: ІІ прэмія конкурсу прысуджана нашаму артысту!

Працяг тэмы на 3-й стар. ▶

# Мастацкія аргументы



Фота Кастуся Дробава.

Леанід Хобатаў, Васіль Шаранговіч, Уладзімір Тоўсцік падчас з'езда.

**Чатырнаццатага снежня ў Палацы прафсаюзаў адбыўся ХХІІ з'езд Беларускага саюза мастакоў. Каля чатырохсот сарака дэлегатаў сабраліся ў адной зале (запрасілі пяцьсот сямнаццаць), каб падвесці вынікі і абмеркаваць актуальныя пытанні дзейнасці саюза.**

Мінулы з'езд, які ладзіўся тры гады таму, мастакі празвалі рэвалюцыйным: выказалі незадавальненне адсутнасцю рэальнай падтрымкі творцаў з боку кіраўніцтва саюза. За тры гады старшыня Саюза мастакоў Рыгор Сітніца прыклаў усе намаганні, каб маральны клімат аднавіўся і мастакі памяталі пра тое, хто яны ёсць.

— Мастакі, якія жыццём даказалі прыналежнасць да творчага кірунку, — гэта інтэлектуальна-духоўная шляхта. А шляхецкае найменне патрабуе адпаведных паводзін, — адзначыў у прывітальным слове да з'езда Рыгор Сітніца. — Таму ўсе нашы спрэчкі павінны быць у межах шляхецкіх паводзін. Мастак мае адзіны аргумент — мастацкі твор. Усе мае высілкі цягам трох гадоў былі скіраваны на вяртанне нашай супольнасці ў мастацкае поле.

Многія выступоўцы адзначылі плённую працу кіраўніцтва і яго паважлівае стаўленне да мастакоў. Але застаецца мноства актуальных пытанняў, якія трэба вырашаць дзеля годнага існавання арганізацыі.

Працяг тэмы на 12-й стар. ▶

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка накіраваў віншаванне калектыву Нацыянальнага гістарычнага музея з 60-годдзем заснавання. «На ваш калектыў ускладзена высакародная місія па захаванні культурнай спадчыны Беларусі. Дзякуючы плённай працы некалькіх пакаленняў работнікаў у музеі сабрана шмат артэфактаў, якія прадстаўляюць беларускую нацыю як неад'емную частку сусветнай супольнасці, адлюстроўваюць этапы развіцця краіны, мастацкі здабытак нашага народа, яго звычаі і традыцыі», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што высокай ацэнкі заслугоўвае дзейнасць музея як сацыяльна-культурнага інстытута, накіраваная на выхаванне патрыятызму, вывучэнне і папулярызацыю гістарычнага мінулага Беларусі, у тым ліку і за яе межамі.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў Мітрапаліта Філарэта, пачэснага Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі з Днём тэзаімянінаў. «На працягу многіх гадоў Ваша мудрае пастырскае слова знаходзіць жывы водгук у сэрцах вернікаў, вучыць любові, дабру, міласэрнасці, аказвае значны ўплыў на маральнасць народа», — гаворыцца ў віншаванні. «І сёння Вы працягваеце скіроўваць свае намаганні на сцвярджэнне хрысціянскіх каштоўнасцей і ўмацаванне духоўна-маральных асноў грамадства», — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы.

✔ Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку Расіі Клару Новікаву з юбілеем. Кіраўнік дзяржавы выказаў упэўненасць, што сваёй творчасцю артыстка і ў далейшым будзе дарыць удзячнай публіцы радасць і добры настрой, садзейнічаць умацаванню беларуска-расійскіх культурных сувязей.

✔ Іміджавы відэаролік «Беларусь. Краіна для жыцця» атрымаў перамогу на Еўразійскім міжнародным фестывалі сацыяльных відэаролікаў у Казахстане. Мерапрыемства было прымеркавана да святкавання 25-годдзя незалежнасці Казахстана. Відэаролік пра Беларусь таксама атрымаў узнагароду і за лепшую рэжысуру. Гэты мініфільм, які годна прадставіў нашу краіну, пабачыў свет дзякуючы намаганням Міністэрства інфармацыі Беларусі. Вытворчасць праекта ажыццявіла «Першая КінаВідэаКампанія» сумесна са *Smart Cinema Production*.

✔ Сумесны гісторыка-мастацкі праект Рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў «Сем таямніц Беларусі», які днямі стартаваў у Палацы культуры прафсаюзаў, зможа прэтэндаваць на статус візітнай карткі краіны. Гэта ўнікальная пастаноўка, якая злучае традыцыі многіх пакаленняў беларусаў з тэхналагічнасцю сучаснасці. Паказы будуць праходзіць па нядзелях, панядзелках, аўторках. На працягу 50 мінут гледачы могуць акунуцца ў гісторыю, культуру, традыцыі Беларусі, пабываць у розных эпохах.

✔ Юная беларуска Ангеліна Васілеўская перамагла на прэстыжным еўрапейскім вакальным конкурсе «Берлінская перліна», павадамілі ў мінскай студыі *StudioPlay*, дзе займаецца выканаўца. Сёлета ў конкурсе ўзялі ўдзел 41 фіналіст з 15 краін свету. Ангеліна Васілеўская — пераможца рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі.

### У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Звернемся да класікаў

Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі аб'яўляе літаратурны конкурс сярод падлеткаў і моладзі ад 14 да 25 гадоў, прысвечаны 135-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Конкурс будзе ладзіцца з 10 студзеня па 20 кастрычніка 2017 года. На разгляд прымаюцца апавяданні, эсэ, празаічныя замалёўкі, навелы, вершы, нарысы, артыкулы самай рознай тэматыкі, у тым ліку і прысвечаныя нашым славутым песнярам.

Для ўдзелу ў конкурсе дасылайце свае творы на адрас: 220034, Мінск, вул. Фрунзэ, 5, Мінскае гарадское аддзяленне СПБ, каб. 308. Або на электронны адрас *mgo-oo-spb@mail.ru* з паведамленнем дакладнага паштовага і электроннага адраса, тэлефона, месца вучобы, года нараджэння.

Журы вызначыць пераможцаў у наступных намінацыях: «Проза», «Паэзія», «Публіцыстыка», «Літаратуразнаўства» і «Літаратурная крытыка» ва ўзроставых катэгорыях 14 — 18 і 19 — 25 гадоў.

Пераможцы атрымаюць дыпломы МГА СПБ, грашовыя прэміі і памятныя падарункі. Лепшыя творы ўдзельнікаў будуць выдадзены ў зборніку. Урачыстае падвядзенне вынікаў конкурсу адбудзецца ў лістападзе ў Доме літаратара.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# ТВОРЧАСЦЬ У ТРЭНДЗЕ

Самыя яркія і паспяховыя праекты адзначылі ў межах «Прэміі HR-брэнд Беларусь 2016». Сёлета на перамогу разлічвалі 37 праектаў з 34 кампаній.

Прэмія HR-брэнд — гэта незалежная прэмія за найбольш паспяховую працу кампаніі, якая ўручаецца штогод. На мерапрыемстве адзначылі і лепшыя брэнды і ў сферы культуры (на гэтую намінацыю было пададзена 12 праектаў). Намінацыя была вылучана з мэтай узнагародзіць тых працадаўцаў, якія рэалізуюць праекты, накіраваныя на падтрымку творчых ініцыятыў, развіццё народных традыцый і захаванне гісторыка-культурнай спадчыны нашай краіны.

Узнагароду І ступені атрымала ТАА «Белгазпрамбанк» за нацыянальны гісторыка-культуралагічны праект «Арт-Беларусь». Менавіта гэты праект дазволіў беларусам пазнаёміцца з «Восеньскім салонам», творчасцю Льва Бакста, «Дзесяцццю стагоддзямі мастацтва Беларусі», «Мастакамі Парыжскай школы Беларусі».

ТАА «Банк БелВЭБ» атрымаў узнагароду ІІ ступені: кампанія штогод праводзіць у Мінску «Джазавыя вечары ў Ратушы» і прапануе паслухаць выканаўцаў з Францыі, Швецыі, Германіі, Польшчы, Латвіі, Вялікабрытаніі, Італіі і іншых краін.

Узнагароду ІІІ ступені атрымала Навуковая бібліятэка Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта за правядзенне гарадскога кніжнага фестывалю «Горад і Кнігі» — унікальнага мерапрыемства, якое аб'ядноўвае кнігалюбаў з усёй Беларусі. У межах фестывалю ладзяцца выстаўкі, клубы, літаратурныя экскурсіі па горадзе, кніжныя спектаклі.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Беларусь — Літва: кніжныя гарызонты

Упасяджэнні круглага стала «Літоўская літаратура ў беларускай культурнай прасторы», што ладзіўся ў Выдавецкім доме «Звязда», узялі ўдзел госці з Літвы, сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі Яронімас Лауцюс і Вітаўтас Жэймантас. Гутарка ішла пра развіццё беларуска-літоўскага літаратурнага працэсу, міжлітаратурныя кантакты, узаемапераклады.

— Для мяне як для пісьменніка галоўнае не колькасць кніг, а той гарызонт магчымасцей, які адкрываюць узаемапераклады, — падкрэсліў дырэктар выдавецтва «Тры зорачкі» Яронімас Лауцюс. — Асабліва цікава наладжваць новыя творчыя кантакты «ўжывую», падчас Дня беларускага пісьменства і міжнародных кніжных выставак-кірмашоў, што ладзяцца ў Мінску.

Пісьменнік распавёў пра досвед выдання сваіх кніг у Беларусі, у прыватнасці пра кнігу «Як вецер запальвае агні», што пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда».

Празаік і публіцыст Вітаўтас Жэймантас пачаў цікавіцца беларускай літаратурай яшчэ ў школьныя гады. Ён знаёмы з творчасцю Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Танка, а яшчэ Змітрака Бядулі, Аркадзя Куляшова, Петруся Броўкі. Цікавяць яго і кнігі старшыні СПБ Мікалая Чаргінца. Па-беларуску ж пачаў чытаць каля дзесяці год таму.

— Я зразумеў, што беларуская літаратура надзвычай шматвектарная. Таму стаў паглыбляцца ў творчасць беларускіх пісьменнікаў, чые жыццёвыя пуцявіны звязаны з літоўскай зямлёй, — распавёў Вітаўтас Жэймантас. — Так у літоўскай прэсе з'явіліся мае першыя публікацыі пра Максіма Танка, Максіма Гарэцкага, Цётку, пра Янку Купалу і Якуба Коласа, якія працавалі ў беларускіх газетах «Наша доля» і «Наша ніва». Пазней звярнуў увагу на асобы Максіма Багдановіча і Зоські Верас (апошняя пражыла ў Вільнюсе амаль стагоддзе).

Цяпер да выдання падрыхтаваная першая кніга літоўскага аўтара, прысвечаная беларускай літаратуры XIX — XX стагоддзяў. Яе героі — Адам Станкевіч, Станіслаў Глякоўскі, Аляксандр Астрамовіч (Андрэй Зязюля) ды іншыя творцы. На літоўскую пераклаў творы Францыска Скарыны, Максіма Багдановіча, Лідзіі Арабей, Георгія Марчука, казкі Вольгі Караткевіч. Сёлета пераклаў аповесць для дзяцей Алеся Карлюкевіча «Прыгоды Шубуршуна». Цяпер працуе з іншым яго творам — казкай «Памылка першакласніцы Святланкі».

Даследчык літаратуры, доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс — аўтар манаграфій пра беларуска-літоўскія культурныя, літаратурныя ўзаемасувязі. У 1988-м сумесна з літоўскай даследчыцай Альмай Лапінскене выдаў манаграфію «Перазовы сяброўскіх галасоў» (1988). Тут упершыню былі раскрыты літаратурныя стасункі беларускага і літоўскага народаў ад старажытнасці да нашага часу. Адам Восіпавіч падкрэсліў: сёння повязі беларускай і літоўскай літаратур мацнеюць. А значыць, «перазовы сяброўскіх галасоў» маюць годны працяг. Пры канцы сустрэчы маладыя паэтэсы і перакладчыцы Юлія Алейчанка, Валерыя Саротнік і Яна Явіч прадставілі перастораныя імі вершы класіка літоўскай літаратуры рубяжа XIX — XX стагоддзяў Майроніса.

**Арына КРАЙКО**



## Акцыя!

*Кніга з аўтографам у падарунак ад «ЛіМа»*

Рэдакцыя газеты «ЛіМ» і Выдавецкі дом «Звязда» разыгрываюць сярод бібліятэк-падпісчыц 100 асобнікаў кніг беларускіх пісьменнікаў і паэтаў з аўтографамі аўтараў. Узяць удзел у акцыі вельмі проста: як мага хутчэй падпісацца на газету, даслаць копію пасведчання пра падпіску нам на пошту (электронную скрыню) і папоўніць свае палічкі новымі беларускімі кнігамі з дарчымі надпісамі!

# Навагодні падарунак ад «ЛіМа»

Газета «Літаратура і мастацтва» запрашае сваіх чытачоў далучыцца да падпіскі на наступнае паўгоддзе. Сыходны 2016-ы — Год культуры — быў поўны на падзеі, і ўсе цікавыя моманты з культурнага жыцця Беларусі былі адлюстраваны на старонках газеты, што адзначылі нашы чытачы, сярод якіх большасць — установы і работнікі культуры. Мы і далей будзем знаёміць з лепшымі творамі сучаснай літаратуры, мастацтва і іх аўтарамі, што адлюстроўваюць рэаліі і поспехі нашай краіны.

«Літаратура і мастацтва» — носьбіт асветы, і дзе, як не ў бібліятэчнай прасторы, можна найлепш рэалізаваць задачы і мэты нашага выдання? Каб зрабіць падпісную кампанію больш цікавай і ўзаемнакарыснай, рэдакцыя «ЛіМа» разам з Выдавецкім домам «Звязда» зладзіла навагоднюю акцыю-падарунак для бібліятэк па ўсёй краіне. Газета творчай інтэлігенцыі імкнецца да супрацоўніцтва са сталічнымі, абласнымі бібліятэкамі, тымі, што знаходзяцца ў малых гарадах і нават вёсках. У спецыяльным праекце «Бібліятэчны сшытак» газета штомесяц асвятляе дзейнасць бібліятэк. Мы імкнёмся ўзнімаць надзённыя пытанні, больш звяртацца да працы рэгіянальных устаноў і спадзяёмся на падказку і дапамогу прафесіяналаў у гэтай справе. Супрацоўнікі беларускіх бібліятэк не толькі чытаюць «ЛіМ», але і самі часам пішуць для яго вершы, апавяданні, артыкулы.

Спадзяёмся, што наша ўзаемная цікавасць і надалей будзе працаваць на карысць падпісчыкаў!

**Наталля Стрыгельская, старшыня бібліятэкі № 14 імя Францішка Багушэвіча горада Мінска:**

— Безумоўна, акцыя для нашай бібліятэкі вельмі карысная. Па-першае, мы з «ЛіМам» робім адну справу: папулярызуем беларускую літаратуру, знаёмім чытачоў з творамі сучасных беларускіх аўтараў, што выходзяць у дзяржаўных выдавецтвах. Па-другое, кніга з аўтографам — гэта заўсёды цікава. Супрацоўнікі бібліятэкі імя Ф. Багушэвіча ладзяць спецыяльныя выстаўкі, каб прадэманстраваць наведвальнікам падпісаныя асобнікі. Калі побач стаяць звычайная кніга і кніга з дарчым надпісам, то апошняя заўсёды зверне на сябе ўвагу: яна мае асабісты зварот ад пісьменніка, які прывабліве чытача.

**Лідзія Мальцава, дырэктар Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага:**

— Пра акцыю мы даведаліся ўжо пасля таго, як аформілі падпіску: газету «Літаратура і мастацтва» ў нашай бібліятэцы любяць і чытаюць. Ідэя добрая: акрамя свежых нумароў «ЛіМа» бібліятэкі-падпісчыцы атрымаюць прыемны падарунак. Гэта асабліва цікава для нашых супрацоўнікаў. Кнігі з аўтографамі аўтараў асобна пазначаюцца ў каталозе, экспануюцца амаль ва ўсіх бібліятэках краіны. Пройдзе год, дзесяць, і каштоўнасць асобнікаў значна ўзрасце, а разам з гэтым — і цікавасць чытачоў да выдання.

**Ірына Лісюк, загадчык аддзела камплектавання, апрацоўкі і арганізацыі адзінага кніжнага фонду Бярозаўскай раённай бібліятэчнай сістэмы:**

— Акцыя «ЛіМа» — выдатны падарунак да Новага года! Кожная бібліятэка Бярозаўскага раёна будзе рада кнізе з дарчым подпісам ад яе аўтара. Калі кніга патрапіла да нас праз удзел у пэўнай акцыі, заўсёды робім пазнаку для чытачоў: гэты асобнік атрымалі не проста так, а выйгралі ў конкурсе!

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# Ад рамантыкі да драмы...

Расіянка Зарына Абаева (сапрана) прадставіла заключную сцэну паміж Таццянай і Анегіным (ёй дапамагаў лаўрэат міжнародных конкурсаў Ілья Сільчукоў), за што атрымала III прэмію Мінскага міжнароднага Калядната конкурсу вакалістаў.

Беларускія выканаўцы, што сёлета ўзялі ўдзел у Мінскім міжнародным Калядным конкурсе вакалістаў, выдатна справіліся з канкурэнцыяй. Трое з адзінаццаці беларусаў выступілі ў фінале, атрымалі ўзнагароды і адзнакі ад журы і публікі. А яна любіць і падтрымлівае сваіх: «Прыз глядацкіх сімпатый» адышоў да беларускі Маргарыты Ляўчук (сапрана) за сцэну і дуэт Джыльды ды Герцага з оперы Дж. Вердзі «Рыгалета».

Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета дэталёва прадумаў арганізацыю імпрэзы, скіраваў шмат увагі на «разынку» мінскага конкурсу: на заключным этапе фіналісты ўдзельнічалі ў нумарах разам з артыстамі Вялікага тэатра. Адразу бачна, хто як паводзіць сябе на сцэне ва ўзаемадзеянні з іншымі спевакамі. У выніку частка ўзнагарод — запрашэнні ад членаў міжнароднага журы на ўдзел у спектаклях і выступленні ў іх краінах.

Але опернае свята працягваецца: Вялікі тэатр запрашае на VII Мінскі міжнародны Калядны оперны форум, які збірае сусветна вядомых оперных спевакоў.

**Тыгран Аганян, уладальнік Гран-пры III Мінскага міжнароднага Калядната конкурсу вакалістаў:**

— Я вельмі шчаслівы, што атрымаў свой першы галоўны прыз у Беларусі. На «Вялікай оперы» мы вельмі пасябравалі з беларускім артыстам Юрыем Гарадзецкім. Мне было тут вельмі цёпла і камфортна, яшчэ і таму, што я прывык да опернай сцэны (у праекце «Вялікая опера» выкарыстоўваюцца мікрафоны, атрымліваецца зусім іншы гук). Для фінальнага выступлення я выбраў урывак з «Багемы», таму што гэта першая опера, якую я спяваў, у мяне з гэтым звязана шмат эмоцый. Наогул, тое, што фінал систэмнага конкурсу ў Мінску ладзіцца ў форме сцэнічнага, тэатральнага выступлення, вельмі добра. Я думаю, што сапраўдны оперны конкурс павінен праходзіць менавіта так: гледачы атрымліваюць задавальненне, калі глядзяць сцэны з розных опер.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

**Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.**

# Чытаем па-беларуску. Багдановіча



*Удзельнік праекта «Чытаем па-беларуску з velcom» — тэлевядучы Юры Жыгамонт.*

Больш за 14 000 вучняў 2-3 класаў з чатырох рэгіёнаў Беларусі ўзялі ўдзел у сацыяльным адукацыйным праекце «Чытаем па-беларуску з *velcom*». Апошнім этапам адукацыйнай праграмы сёлета стала Гродзенская вобласць. Незвычайныя ўрокі беларускай мовы і літаратуры сабралі больш за тры тысячы вучняў малодшых класаў у 25 школах Гродзеншчыны.

Галоўная задача праекта «Чытаем па-беларуску з *velcom*» — ва ўсёй краіне развіць цікавасць у малодшых школьнікаў да беларускай мовы, літаратуры і культуры. Для гэтага распрацавана спецыяльная інтэрактыўная праграма. Заняткі ладзяць вядомыя пісьменнікі, паэты і акцёры: Уладзімір Ліпскі, Раіса Баравікова, Юрый Жыгамонт, Алёна Масла, Наталля Бучынская. Настаўнікамі праекта часта становяцца беларускія спартсмены і тэлевядучыя. Ініцыятар праекта — кампанія *velcom* пры падтрымцы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Школы і гімназіі Ліды, Ваўкавыска, Смаргоні, Навагрудка і Слоніма ўдзельнічалі ў адукацыйнай праграме ў лістападзе і снежні. У Гродне займальныя ўрокі сацыяльнага праекта прайшлі адразу ў дзевяці ўстановах адукацыі ў адзін дзень.

Спецыяльны ўрок, прысвечаны 125-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча, адбыўся ў гродзенскім Новым Замку. Пісьменніцы Раіса Баравікова і Алёна Масла, тэлевядучыя Юрый Жыгамонт і Аляксандр Улейчык, дырэктар Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея-комплексу каралеўскіх палацаў — Новага і Старога Замка — Юрый Кітурка, загадчыца Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Алена Рапінчук, а таксама больш за 100 вучняў Гродзенскай гарадской гімназіі чыталі вершы паэта і прыгадвалі старонкі яго біяграфіі.

«Праект "Чытаем па-беларуску з *velcom*" дае магчымасць сустрэцца з дзецьмі, для якіх і пішуцца казкі. Відаць, гэта і ёсць самая кароткая дарога да чытача — непасрэднае знаёмства. Расказаць пра сваіх герояў і, што вельмі важна, адчуць зваротную сувязь. Імгненні яднання з роднай мовай зрабіць яшчэ больш яркімі і пазнавальнымі», — расказала дзіцячая пісьменніца Наталля Бучынская.

Нядзіўна, што за час існавання ініцыятывы арганізатары пастаянна атрымліваюць лісты з просьбамі правесці ўрокі ў гарадскіх і сельскіх школах. Так, на Гродзеншчыне ўрок праекта зладзілі ў сельскай беларускамоўнай школе ў аграгарадку Квасоўка.

**Кацярына ВАЛКОЎСКАЯ**

## Дайджэст

• Украінская пісьменніца Ірына Даўнеўская выдала гістарычны раман «Нямецкі прынц Багуслаў Радзівіл», прысвечаны ўплывоваму магнату ВКЛ, які ўдзельнічаў у шматлікіх гістарычных падзеях сваёй эпохі. Яго постаць прываблівае гісторыкаў, пісьменнікаў, мастакоў Польшчы, Беларусі, Літвы, Украіны, Расіі цягам некалькіх стагоддзяў. Раман Даўнеўскай распавядае пра юнацтва і маладыя гады Б. Радзівіла, поўныя прыгод і падарожжаў па Заходняй Еўропе. Па словах аўтара, праца над кнігай ішла пяць гадоў. Выкарыстоўваліся не толькі навуковыя публікацыі гісторыкаў, але і першакрыніцы. Цэнтральнае месца сярод іх займае «Аўтабіяграфія» Б. Радзівіла, якая дзякуючы Уладзіміру Сіўчыкаву пабачыла свет на беларускай мове ў 2009 г. Пісьменніца ўжо анансавала працяг прыгод Б. Радзівіла, які распавядзе пра падзеі 1648 — 1669 гг.

• Лідар «Садружнасці латвійскіх дыеўтураў» Валдыс Цэлмс выдаў кнігу «Асновы балцкай рэлігіі». Спадар Валдыс таксама — аўтар папулярнай у Латвіі кнігі «Латышскія арнаменты і знакі». Ён вядомы як мастак, а таксама даследчык сістэмы традыцыйных латышскіх (шырэй — балцкіх) арнаментаў. У Літве аналагічная кніга выйшла ў 2000 годзе, калі лідар «Рамувы» Ёнас Трынкунас выдаў «Балцкую веру». У Беларусі дагэтуль няма свайго выкладу паганскага вучэння. Часам кажуць, што яго функцыю выконваюць тамы «Беларускай народнай творчасці» або энцыклапедычны даведнік «Беларуская міфалогія», але гэтыя кнігі маюць выключна навуковы характар.

• Будслаўскі фэст не патрапіў у спіс спадчыны ЮНЕСКА. Пра гэта стала вядома па выніках сесіі Міжурадавага камітэта па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА, якая праходзіла ў Адыс-Абебе (Эфіопія). Дасье будзе наноў разглежданае ў наступным намінацыйным цыкле ў сувязі з заўвагамі экспертнага савета, які запатрабаваў дадатковую інфармацыю, у прыватнасці, аб захадах па ахове традыцыі. Эксперты таксама папрасілі больш падрабязна раскрыць ролю пілігрымаў і мясцовых жыхароў у інвентарызацыі і захаванні культурнай каштоўнасці. Акрамя Будслаўскага фэсту, Беларусь прадставіць да ўключэння ў спіс старадаўні абрад «Юраўскі карагод», які мае як паганскія, так і хрысціянскія карані і праходзіць у вёсцы Пагост Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці.

## ЛіМ-каляндар

**1 снежня** — 160 гадоў з дня адкрыцця Віленскага музея старажытнасцей, заснаванага Я. Тышкевічам. Быў адкрыты ў 1856 годзе і праіснаваў да 1914 года.

**3 снежня** 60 гадоў адзначае Ірына Шуміліна, беларуская піяністка, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь.

**7 снежня** — 135 гадоў з дня нараджэння Янкі Сваяка (сапраўднае імя Мар'ян Фальскі; 1881 — 1974), беларускага перакладчыка, публіцыста, педагога, грамадскага дзеяча. Пісаў на польскай і беларускай мовах. Жыў у Варшаве.

**9 снежня** 85 гадоў адзначае Генадзь Токараў, беларускі акцёр, заслужаны артыст БССР.

**11 снежня** — 140 гадоў з дня нараджэння Мечыслава Карловіча (1876 — 1909), польскага кампазітара, дырыжора, ураджэнца Беларусі.

**13 снежня** 80 гадоў святкуе Аляксандр Зубаў, беларускі мовазнаўца.

**13 снежня** 75 гадоў адзначае Мікола Маляўка, беларускі паэт, перакладчык.

**15 снежня** — 95 гадоў з дня нараджэння Сцяпана Александровіча (1921 — 1986), беларускага літаратуразнаўца, крытыка, празаіка, заслужанага работніка культуры БССР.

**17 снежня** — 130 гадоў з дня нараджэння Мікалая Равенскага (1886 — 1953), беларускага кампазітара. Жыў у Бельгіі.

**17 снежня** — 75 гадоў з дня нараджэння Вячаслава Дубінкі (1941 — 2010), беларускага празаіка, фотамайстра, журналіста.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці празаіка і публіцыста Аляксандра Пятровіча МАКОЎСКАГА і выказваюць шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырае спачуванне паэтэсе Аліне Антонаўне Легастаевай з прычыны смерці СЯСТРЫ.

Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ смуткуе з прычыны смерці заслужанага настаўніка Рэспублікі Беларусь, краязнаўцы, заснавальніка першага ў краіне дзяржаўнага літаратурна-краязнаўчага музея ў в. Гудзевічы Мастоўскага раёна Алеся Мікалаевіча БЕЛАКОЗА і выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім нябожчыка.

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**19 снежня** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**20 снежня** — *у клуб творчых жанчын «Спадарыня» пры публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2) на творчы вечар паэтэсы Вольгі Шпакевіч «І пасцяліла зіма белы-белы абрус». Пачатак у 17.30.*

**21 снежня** — *у літаратурную студыю «Малінаўскія галасы» пры дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27) на мерапрыемства, прымеркаванае да 125-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**21 снежня** — *у Мінскі гарадскі тэатр паэзіі пры Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16) на імпрэзу «Зорка Венера ўзышла над зямлёю», прысвечаную Максіму Багдановічу. Пачатак у 17.30.*

**22 снежня** — *на пасяджэнне літаратурнай студыі «Сугучча» пры СШ № 77 (вул. Крупскай, 10), прысвечанае Максіму Багдановічу. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**22 снежня** — *на юбілейную творчую імпрэзу празаіка Віталя Кірпічэнкі, што адбудзецца ў Мемарыяльнай зале СПБ (вул. Фрунзэ, 5). Пачатак у 13.30.*

**22 снежня** — *у публічную бібліятэку № 12 (вул. Аўрораўская, 8) на выстаўку фотамастака Міхаіла Крыжаноўскага «Пісьменнік і час», прысвечаную дзейнасці сталічнага аддзялення СПБ. Час работы з 11.00 да 19.00.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**18 снежня** — *на літаратурную сустрэчу з гродзенскімі творцамі ў Ваўкавыскае раённае літаратурнае аб'яднанне «Муза» (Гродзенская вобласць, г. Ваўкавыск, Ваўкавыскі цэнтр творчасці дзяцей і моладзі, вул. Савецкая, 20). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**20 снежня** — *у літаратурную гасцёўню Гудзевіцкага дзяржаўнага літаратурна-краязнаўчага музея (Гродзенская вобласць, Мастоўскі раён, в. Гудзевічы, вул. Цэнтральная, 7) з удзелам пісьменнікаў Людмілы Кебіч, Ганны Скаржынскай-Савіцкай і Тамары Мазур. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**21 снежня** — *на фінальны этап абласнога літаратурнага конкурсу «У Панямонскім небе Цётчына зорка не згасне» і прэзентацыю інтэрактыўнага паэтычнага зборніка «У вянок Максіму» ў Гродзенскую абласную навуковую бібліятэку імя Я. Карскага (г. Гродна, вул. Замкавая, 20, Новы замак). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**22 снежня** — *на літаратурную сустрэчу гродзенскіх пісьменніц Людмілы Кебіч і Ганны Скаржынскай-Савіцкай з бібліятэкарамі Гродзенскай вобласці ў Гродзенскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці (г. Гродна, вул. Савецкая, 8). Пачатак а 13-й гадзіне.*

# Як гуманітарыю стаць эканамістам,

## альбо Нобелеўская прэмія ў музейнай экспазіцыі

**Неабыякавым да культурнага жыцця краіны, безумоўна, цікава даведацца, хто ўзначальвае Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры — фактычна, галоўную ўстанову сярод іншых падобных. Тым больш цікава, што менавіта пры новым дырэктары адкрыліся абноўленая экспазіцыя музея Максіма Багдановіча і «Беларуская хатка». Дзмітрый Яцкевіч займае гэтую пасаду менш як два месяцы, але ўжо мае, што распавесці, у тым ліку пра планы музея. Але напачатку — пра яго самога.**



*Дзмітрый Яцкевіч.*

— Апошнія тры гады я працаваў намеснікам дырэктара па навуковай працы Нясвіжскага музея-запаведніка. Да гэтага дваццаць з лішкам год — у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, а яшчэ раней быў археолагам у Белрэстаўрацыі.

Зразумела, што, працуючы ў Нацыянальным гістарычным архіве, не заўважыць нейкія крыніцы па гісторыі літаратуры ды пісьменства проста немагчыма, гэта было б злачынствам. У свой час як загадчык сектара геральдыкі распрацоўваў праграму па генеалогіі Беларусі: рабілі своеасаблівыя гербоўнікі. Але гэта тычылася найперш шляхты. Я ж заўсёды лічыў, што радаводы маюць усе, у тым ліку сяляне, мяшчане... Сярод іх сустракаліся людзі, якія пакінулі след у нашай літаратуры. Большасць маіх работ звязаная з іх біяграфіямі. Гэта вылілася ў радаводы Яна Чачота, Максіма Багдановіча; асобныя выданні пабачылі свет у 1996 і 1997 гадах. Пра Ядвігіна Ш., Кіркора, Тышкевіча і іншых друкаваліся матэрыялы ў перыядычных выданнях: часопісе «Роднае слова», газеце «ЛіМ». Астатняе засталося ў шуфлядах — радаводы Якуба Коласа, Язэпа Лёсіка... Некаторыя праекты не здзейсніліся. Так што сказаць, што я чалавек зусім старонні для літаратуры, не магу. Вывучаў і творы, і гісторыю, і лёсы, і радаводы.

**— Калі ў вас ёсць шэраг такіх работ, ці не думалі сабраць іх у адну грунтоўную кнігу?**

— Безумоўна, думаў, але гэтым трэба шчыльна займацца. Раней многае рабілася на нейкім энтузіязме і за свае грошы, часцей за ўсё. Цяпер, пасля адкрыцця Хаткі і абноўленай экспазіцыі ў музеі Багдановіча, пасля адкрыцця нашага музея, мяркую, з'явіцца час дапрацаваць шэраг радаводаў, зрабіць новыя, якіх патрабуе нават наша экспазіцыйная дзейнасць. Каб разабрацца ўсё ж такі, хто такія нашыя пісьменнікі. Бо кожны раз, калі я бяруся за радавод пэўнага аўтара, змяняецца яго сацыяльны статус, веравызнанне, часам нават нацыянальнасць. Традыцыйная канцэпцыя беларускай літаратуры можа вельмі моцна змяніцца пасля такіх даследаванняў. Мы ведаем, што ў асноўным усе былі сялянскага паходжання ды праваслаўныя. Напраўду ж так не атрымліваецца. У нас і Соф'я Слуцкая дагэтуль лічыцца праваслаўнай, хоць па гістарычных крыніцах яна каталічка. У таго ці іншага роду можа аказацца замежнае паходжанне. Кожнае такое даследаванне прыносіць нечаканыя адкрыцці, прыкладам, прозвішча пісьменніка магло б быць зусім іншым. Кшталту таго ж Максіма Багдановіча, у якога магло быць прозвішча Скокліч. Крыніцы паказваюць, што наша гісторыя, і літаратура ў тым ліку, больш шматгранныя, чым мы можам сабе ўявіць.

**— Значыць, калі заняцца якраз даследаваннем радаводаў пісьменнікаў, зменіцца погляд на літаратуру ў цэлым?**

— Менавіта так. Ён пастаянна змяняўся ў працэсе працы над радаводам Максіма Багдановіча. Было надзвычай цікава паспрабаваць выявіць генетычны код генія. Адкуль мог з'явіцца такі ўнікальны чалавек? У бацькі ўсе продкі былі ўніятамі. Працавалі ў панскім двары садоўнікамі (цікава, што і Скарына быў садоўнікам). У маці — шляхта, прычым даволі рэдкага герба Курч. Цэлы шэраг уніяцкіх святароў, якія скончылі Навасвержанскую духоўную базыльянскую семінарыю, і гэта, безумоўна, паўплывала на маці Багдановіча. І ў выніку — паэт, якога да гэтай пары не ўдалося да канца асэнсаваць, нягледзячы на той малы кавалак жыцця, каторы яму дастаўся.

**— Распавядзіце пра асабістыя літаратурныя густы.**

— Зразумела, што ўсе выраслі на Караткевічы, Быкаве. Потым прыйшла цікаўнасць да Гарэцкага, Мрыя... Словам, усяго, што было забаронена і выпадала з таго падручніка па гісторыі літаратуры, які ў нас быў.

Вельмі часта, працуючы з архіўнымі дакументамі XVI — XVIII стагоддзя, знаходзіў у актавых кнігах магістрата альбо гродскага суда цікавыя вершы і нататкі, нават афарызмы людзей, якія вялі справаводства. І ніхто не ацаніў з мастацкага пункту гледжання гэтыя тэксты. Крытэрыі і густы змяняюцца, любое асобнае стагоддзе нельга ацэньваць з сучаснага пункту гледжання. А самае галоўнае — да нас дайшлі толькі найбольш вядомыя творы і імёны. Мы не ўяўляем, насамрэч, колькі згублена ў часе. Бурмістры, пісары, радцы, лаўнікі, якія пісалі хронікі нашых гарадоў, — толькі адзін маленькі пласт. А што рабілі іншыя адукаваныя людзі таго часу?.. Праблема нумар адзін — што лічыць літаратурай? Праблема нумар два — што мы можам лічыць беларускай літаратурай? Ці датычаць яе аўтары, якія пісалі па-польску, ці па-расійску, жывучы ў нашай культуры? Што мы зробім: адмовімся, як звычайна, ад кагосьці, ці ўсё ж такі будзем лічыць іх нашымі дзеячамі? Сённяшні прыклад Алексіевіч гэта цудоўна ілюструе.

**— З якімі цяжкасцямі сутыкнуўся новы дырэктар музея гісторыі беларускай літаратуры? І ў чым цяпер бачыце найпершую сваю задачу?**

— Самая галоўная цяжкасць — гэта гаспадарчыя пытанні, звязаныя з адкрыццём Хаткі і музея Багдановіча. Таксама — змены ў экспазіцыях філіялаў, а іх дзевяць. І пашырэнне дзейнасці. Нам трэба зарабляць грошы. Безумоўна, у музеях павінны быць сувенірныя крамкі, дый увогуле ўсё, што можа спатрэбіцца, — ад шакаладу да вады й кававых апаратаў. Каб у нас сапраўды было ўтульна і людзі не спяшаліся сысці. Будзем старацца, але праблема маркетынгу стаіць вельмі востра. Патрэбныя людзі, здольныя да такой дзейнасці, а музейных супрацоўнікаў-маркетолагаў у нас, на жаль, не рыхтуюць. Цяжкавата гуманітарыю адразу стаць эканамістам. А гэта неабходна. Іншыя журналісты задаюць пытанне: ці плануеце адкрыць у музеі кавярню? З задавальненнем! Дайце месца, і я адкрыю. Але на сёння вольнай тэрыторыі папросту няма. Нам бы захаваць фонды. Праблем шмат, але, кажуць, першыя сто дзён самыя складаныя. Я спадзяюся, яны пройдуць мага хутчэй, і неўзабаве з'явяцца першыя станоўчыя вынікі. У кастрычніку 2017-га музею гісторыі беларускай літаратуры споўніцца 30 год. Мяркуем адкрыць калі не ўсю, то частку пастаяннай экспазіцыі.

**— Якія асобы стануць для яе ключавымі? Раней, помніцца, вялікую ролю граў Быкаў...**

— У нас ёсць філіял-лецішча Быкава. Ёсць яго дом у Бычках. Трэба зрабіць так, каб людзі наведвалі гэтыя музеі, бо менавіта там засяроджаная асноўная колькасць экспанатаў, звязаных з ім. Паўтары тысячы пісьменнікаў на чатырох сотнях квадратных метраў згадаць немагчыма. Так, будуць абазначаныя ключавыя фігуры ў розных перыядах. Але праблема іншая: ці павінны мы стаць дадаткам да падручніка па гісторыі літаратуры? Быць можа, варта засяродзіцца на малавядомых асобах?.. Тых, каго няма ў падручніках. Як гэта зрабіць? Ніхто ўсур'ёз не працаваў над гэтым пытаннем. Без таго ж Скарыны мы, відаць, не абыдземся, але ж ёсць прысвечаная яму экспазіцыя ў Полацку. Што, у такім разе, нам адлюстраваць у экспазіцыі? У якім кірунку дапрацаваць канцэпцыю? А ўдасканаліць яе неабходна. У нас з'явіўся нобелеўскі лаўрэат — і мы павінны яго паказаць. І, быць можа, паставіць кропку на ім, а не ў 1990-х гадах XX стагоддзя, як гэта было запланавана.

**Наста ГРЫШЧУК**

*Цікава ведаць*

# Крэсла Быкава

**Унікальны прадмет папоўніў фонды Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры — венскае крэсла, якое належала Васілю Быкаву, народнаму пісьменніку Беларусі.**

Гісторыя гэтага прадмета пачынаецца з Віцебскага краю. Напачатку крэсла знаходзілася ў панскай сядзібе, у вёсцы Бычкі, дзе пасля рэвалюцыі адкрылі школу. Тут некалькі класаў адвучыўся Васіль Быкаў. З цягам часу школу закрылі, і Васіль пайшоў вучыцца ў Белякоўскую сярэднюю школу, затым — у Кубліцкую, якую скончыў у 1939 годзе. Панская сядзіба хутка запусцела, і мясцовыя жыхары пачалі яе разбіраць. Васіль з сястрой Валянцінай таксама наведаліся ў былую школу, адкуль і прынеслі крэсла, якім некалі карыстаўся настаўнік. Каб пазбегнуць абвінавачванняў, маўляў, скралі школьную маёмасць, Васіль выразаў з абодвух бакоў, на спінцы, ініцыялы бацькі «Б.В.Х.» (Быкаў Уладзімір Хведаравіч). На сёння захаваўся толькі адзін надпіс на асабовым баку.



*Крэсла да рэстаўрацыі (2014 год)...*



*...і пасля (2016).*

У 2004 годзе хата бацькоў Быкава была зруйнаваная, а на яе месцы пабудаваная «Сядзіба-музей Васіля Быкава», філіял установы культуры «Ушацкі музей народнай славы імя Уладзіміра Елісеевіча Лабанка».

Да разбору старога дома крэсла знаходзілася ў жонкі брата пісьменніка, Мікалая Уладзіміравіча. Антаніна Аляксандраўна пакінула яго ў дрывотні. У 2014 годзе Глеб Лабадзенка і Сяргей Шапран заўважылі крэсла, але яно было пашкоджанае: зламаныя ножка і спінка, адсутнічала сядзенне, словам, патрабавалася грунтоўная рэстаўрацыя. У канцы 2014 года яе правёў майстар Яўген Зарубайка.

Дзякуючы намаганням супрацоўнікаў установы «Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры» крэсла было перавезенае з Віцебшчыны ў Мінск. Цяпер яно захоўваецца ў фондах музея. Экспанаваць крэсла плануецца ва ўстанове «Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры» або ў яго філіяле «Музей-дача Васіля Быкава» а. г. Ждановічы, аднак прыярытэтным месцам застаецца радзіма пісьменніка — вёска Бычкі.

**Таццяна ВАСІЛЬЕВА, навуковы супрацоўнік аддзела фондаў музея**

# «Скрынка з мноствам сакрэтаў»

## ад лаўрэата Нацыянальнай літаратурнай прэміі Сяргея Клімковіча

Пісьменнікі сцвярджаюць, што самыя патрабавальныя чытачы — дзеці. Менавіта ў дзяцінстве фарміруецца культура чытання, маральныя прынцыпы асобы, светапогляд грамадзяніна, таму быць дзіцячым пісьменнікам — асаблівая адказнасць, лічыць чалавек з актыўнай жыццёвай пазіцыяй, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Сяргей Клімковіч. З ім наша размова пра тое, як аўтары прыходзяць у дзіцячую літаратуру, што імкнуцца данесці да юнага чытача.

**— Нацыянальная літаратурная прэмія прысуджана вам у намінацыі «Лепшы дэбют». Як вы лічыце, яна стала прызнаннем таго, што вы знайшлі сваю літаратурную нішу — дзіцячую літаратуру, — ці хутчэй з'яўляецца паказчыкам высокай ацэнкі вашай творчасці наогул?**

— Лічу, што ў пісьменнікаў павінна быць шмат такіх ніш. Каб мець магчымасць схавацца ў іх ад творчага крызісу *(Усміхаецца.)*. А калі без жартаў, то пісьменнік павінен спрабаваць сябе ў розных жанрах і кірунках: публіцыстыка, крытыка, дакументалістыка, проза для дарослых і дзяцей, філасофскія пошукі, нават блогерства. Чаму Леў Талстой — такая недасягальная велічыня, такі тытан, такая глыба і моц у рускай літаратуры? Таму што яго голас гучаў усюды, усе і ўсё падвяргалася ім пісьменніцкаму аналізу, да ўсяго ён выяўляў невычэрпную цікаўнасць і цікавасць — чаго ні дакраніся: філасофіі або навучальных апавяданняў для дзяцей. У гэтым сакрэт выжывання пісьменніка. Нельга замыкацца ў адным жанры. А яшчэ горш — замыкацца на сваіх поспехах або няўдачах. Пісьменніцтва — гэта не вынік, а шлях. Няпросты жыццёвы і творчы шлях.

**— Ваша першая публікацыя — аповесць «Шлях да святла» (1997) — гэта даследаванне з'яўлення і негатыўнага ўплыву розных сект і груповак на соцыум, пазней у друку выйшлі гарадскія раманы, аповесці і дэтэктывы. Пісаць для дзяцей вы пачалі значна пазней?..**

— Дзіцячая літаратура — заўсёды для пісьменніка выклік, «сканаванне» здольнасцей. Так, менавіта так, як ні дзіўна. Проза для дзяцей лаканічная, неабходна стрымліваць сябе ад спакусы ўводзіць у тэкст складаныя метафары, разадзьмутыя гіпербалы, сказы на цэлы абзац і іншых «прыгостваў». Лаканізм, сціласць і яснасць — гэтаму, аказваецца, трэба вучыцца некаторым пісьменнікам, калі яны хочуць быць зразумелымі дзецям. Да таго ж мы памятаем, чыёй «сястрой» з'яўляецца сціласць. І для мяне дзіцячая літаратура — выклік, экзамен на «дзяцінасць», на фантазію, на летуценнасць. Не сакрэт, што дарослыя губляюць з часам адчуванне дзяцінства ў сабе. Па аб'ектыўных прычынах, зразумела. Вось таму я пачаў пісаць для дзяцей. Першымі з'явіліся маленькія аповесці пад назвай «Прыгоды павучка Шушы». Потым — серыя «Таямніца кватэры № 8» і «Загадка Чорных Гадзіншчыкаў».

**— У 2011 годзе вы скончылі Літаратурны інстытут. Чаму вырашылі пайсці вучыцца? Што дало вам навучанне? Ці патрэбныя, на ваш погляд, літаратурныя інстытуты нашай краіне?**



Сяргей Клімковіч.

— Самае дзіўнае рашэнне ў маім жыцці. Мне было 32 гады, я працаваў у часопісе «Армія». Застары для студэнцкай лавы, як мне здавалася. Але калегі ўгаварылі, пераканалі, што нічога страшнага ў гэтым няма. Паехаў паступаць. А ў Маскве да гэтага ніколі не быў. Вялізны горад, нічога незразумела. Як у тумане здаваў экзамены. Дарэчы, там быў экзамен «Пераказ з разважаннем». Я, да свайго здзіўлення, напісаў гэта пераказ (выкладчык чытае пару разоў тэкст, і абітурыенты павінны яго ўзнавіць і зрабіць высновы) на 100 балаў са 100. Нас такіх было двое «завучак». Паступіў на бюджэт. Вучыцца было складана, але карысна і цікава. Гэта і пашырэнне кругагляду, і нават банальнае «падцягванне» пісьменнасці да акадэмічнага ўзроўню. Але ж інстытут — не толькі вучоба. Гэта яшчэ і сам горад, яго магчымасці — музеі, тэатры, выставы, кніжныя крамы, сустрэчы са знакамітымі пісьменнікамі і паэтамі. Гэта каласальныя магчымасці ўласнага пісьменніцкага росту. Расіі, вядома, патрэбен Літаратурны інстытут. Ён аддушына для творчай моладзі. Для маленькай Беларусі ствараць асобны інстытут не бачу сэнсу. (Удакладненне «ЛіМа»: у Інстытуце журналістыкі БДУ адкрыта спецыяльнасць «Літаратурная работа. Творчасць».) Але ж ніхто не забараняе беларусам паступіць на бюджэтныя месцы або платна ў той жа маскоўскі Літінстытут.

— Сяргей Клімковіч-дзіцячы пісьменнік і Клімковіч-раманіст — што ў іх агульнага і што адрознага?

— Агульнае «я». Ад яго, як разумееце, нікуды не дзенешся. Асоба пісьменніка — як скрынка з мноствам сакрэтаў і патаемных аддзелаў. Часам і сам пісьменнік не ведае, што схавана ў чарговай «скрыначцы». Калі казаць пра агульнае, то гэта заўсёды праўдзівасць, схільнасць да сюжэтнага апавядання, да дынамізму. А пра адрозненні ўжо адзначаў: у дзіцячай прозе трэба стрымліваць сябе ад залішняга ўпрыгожвальніцтва тэксту.

**— Света, Леначка, Барыс і Кніжнікі — героі кніг вашай серыі «Таямніца кватэры № 8». Распавядзіце пра іх больш падрабязна, калі ласка. Што нас чакае на старонках новых кніг серыі?**

— Гэта цудоўныя дзеці! Жывыя, цікаўныя, смелыя, сумленныя. Такімі павінны быць героі дзіцячых кніг. Яны ўвесь час у пошуку, ні хвілінкі спакойнай няма: школа, гурткі, хатнія заняткі, прыгоды. З гэтага складаецца дзяцінства. Вядома, яны сталі героямі яшчэ і магічных прыгодаў, але ўспомніце сваё дзяцінства! Які фантастычны свет мы малявалі вакол сябе! Кавалак шкла ператвараўся ў алмаз, пластыкавы пісталет — у грозную зброю, якая-небудзь закінутая пабудова — у крэпасць. У гэтым сутнасць дзяцінства. А пасля «Таямніцы кватэры № 8» будзе серыя «Загадка Чорных Гадзіншчыкаў» — неверагодная гісторыя, у якой дзеці сутыкнуцца з таямнічымі і нябачнымі Чорнымі Гадзіншчыкамі, якія крадуць у людзей дарэмна страчаны імі час. Амаль дапісана кніга з тымі ж героямі, прысвечаная 500-годдзю кнігадрукавання ў Беларусі. Гэта вялікі сакрэт! Кніга павінна з'явіцца пасля лютаўскай кніжнай выставы.

**— Якія кнігі вы самі любілі ў дзяцінстве і якія чытаеце зараз?**

— Шмат і розныя. Зачытваўся Феніморам Куперам, Брэдберы, Уэлсам. З нашых пісьменнікаў — Бяляеў, Яфрэмаў, Аляксандрава (напісала вядомую кнігу пра дамавіка Кузю), Купрын, Бажоў, Чукоўскі. Гэта беларускія і рускія народныя казкі. Цяпер, вядома, у маім чытацкім прыярытэце класікі літаратуры — Чэхаў, Шолахаў, Талстой, Даўлатаў, Булгакаў і многія іншыя.

**— П'еса «Касцюкі» напісаная вамі на беларускай мове. Гэта першы ваш драматычны і беларускамоўны твор? Што вас на яго натхніла?**

— Так, першы. Я напісаў яго для Драматычнага тэатра беларускай арміі. Ён на патрыятычную тэму, пра прызыў у армію і некаторых юнакоў, якія спрабуюць гэтага прызыву пазбегнуць. Мне хацелася паказаць, як гэта ганебна — пазбягаць службы ў войску, выкручвацца дзеля гэтага. Там у канцы п'есы ёсць сцэна, калі стары апранаецца ў форму свайго загінуўшага сына-афганца і кажа юнаку, які хаваўся ў яго доме ад прызыву: «Вось яго месца займу ў арміі! Колькі мне часу засталося, столькі і аддам войску ў апошні раз. Калі ўнукі не жадаюць! Праводзіны, будзем лічыць, адбыліся! Усім не хварэць, немач у пер'і!»

**— У адной са сваіх мініяцюр вы пішаце: «…Цяпер зноў буду бурчэць. Праз амаль месяц. Глыбакадумна маўчу-маўчу, а потым пачынаю дзяліцца маўчаннем з тымі, хто навокал. Сумна маўчаць проста так». Пра што не можа маўчаць пісьменнік і грамадзянін Сяргей Клімковіч?**

— Не магу маўчаць пра несправядлівасць, пра небяспечную сутнасць агрэсіўнага нацыяналізму. Вяду блогі на розных рэсурсах. Заклікаю да інтэрнацыяналізму, да сяброўства, да нецярпімасці да раз'яднання народаў. Лічу, што гэта важна.

**Гутарыла Бажэна МАЦЮК**

# Невядомы ліст Якуба Коласа:

## працяг гісторыі



Класік беларускай літаратуры пакінуў багатую эпісталярную спадчыну. Ён любіў ліставацца з роднымі, блізкімі, сябрамі і знаёмымі. Усе вядомыя лісты паэта ўвайшлі ў Поўны збор твораў Якуба Коласа, які быў выдадзены да 130-годдзя з дня яго нараджэння. Сёлета — 60 год, як не стала паэта. Наступны, 2017-ты, юбілейны: 135 год з дня нараджэння песняра. Здаецца, прайшло столькі часу, што знайсці нешта новае, невядомае, амаль немагчыма…

У часопісе № 4 «Полымя» за 2015 год філатэліст, намеснік старшыні Беларускага саюза філатэлістаў Леў Коласаў надрукаваў невядомы ліст Якуба Коласа да літаратуразнаўцы, прафесара Беларускага і Казанскага ўніверсітэтаў Аляксандра Мікалаевіча Вазнясенскага. Ліст датаваны 1939 годам, захоўваецца ў прыватнай калекцыі нямецкага філатэліста Карстана Альспэбэна.

Адзначым, што Аляксандр Вазнясенскі не быў для Якуба Коласа незнаёмым чалавекам. У 1923 годзе ён працаваў сакратаром прадметнай літаратурнай камісіі БДУ, якая прызначыла Канстанціна Міцкевіча асістэнтам кафедры беларускай мовы і зацвердзіла яго на пасаду выкладчыка. Сам А. Вазнясенскі працаваў у БДУ з 1921 па 1930 год. У 1926 годзе Якуб Колас і А. Вазнясенскі разам удзельнічалі ў Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, апошні выступіў з дакладам «Паэтычнае мастацтва навейшай беларускай літаратуры». У сваім выступленні А. Вазнясенскі абгрунтаваў канцэпцыю творчага метаду класікаў беларускай літара-туры як сінтэзу рэалізму і рамантызму.

А. Вазнясенскі — аўтар такіх прац, як «Паэтыка М. Багдановіча» (1926 г.), «Паэмы Янкі Купалы» (1927 г.), «Асноўныя прынцыпы пабудовы беларускай навукі аб літаратуры» (1927), «Ля вытокаў мастацкай прозы Якуба Коласа». Апошняя частка друкавалася ў № 8 часопіса «Полымя» за 1928-ы і № 1 — 4 за 1929 год. У гэтым даследаванні А. Вазнясенскі дае грунтоўны аналіз ранняй творчасці Якуба Коласа, прадметам яго разгляду становіцца два зборнікі беларускага паэта «Апавяданні» (Вільня, 1912 г.) і «Родныя зявы» (Вільня, 1914 г.). У пачатку 1930-х гг. А. Вазнясенскі пад націскам ідэалагічных абвінавачванняў з боку партыйных органаў выехаў у Расію.

Яшчэ адзін ліст з перапіскі Якуба Коласа з А. Вазнясенскім, які да гэтага быў невядомы, захоўваецца ў бібліятэцы імя Францыска Скарыны ў Лондане. Копію гэтага ліста знайшла і перадала ў фонды Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа ўнучка беларускага песняра Марыя Міцкевіч. Ліст датаваны 7 красавіка 1940 года. На заказным канверце пазначаны адрасат: «Г. Казань, ул. Дзержинского, д. № 11 кв. 54. Профессору А. Вознесенскому», а таксама адрас адпраўшчыка «Минск, БССР, Академия наук, Я. Колас». Паколькі ліст ніколі не друкаваўся, прыводзім яго цалкам:

*Дорогой Профессор!*

*Посылаю список имен с отметкой тех лиц, о которых упоминать не следует. О живущих вне Белоруссии поступить так же определённо, как с нашими (местными) не решаюсь, но кажется больше вычеркнуть некого.*

*С тов. приветом. Якуб Колас*

*7 IV 1940 г.*

Верагодна, гэта заўвагі да працы А. Вазнясенскага, якую ў лісце ад 26 лістапада 1939 года Якуб Колас прасіў дасласць на яго імя і якую збіраліся надрукаваць у тыпаграфіі Акадэміі навук.

**Васіліна МІЦКЕВІЧ**

# ЗНАЙСЦІ ПАТРЭБНЫЯ СЛОВЫ




**Выдатна.** Адзін з самых запамінальных персанажаў гэтага нумара «Полымя» — разважлівы дзед Ціханёнак з запісаў Уладзіміра Сціпана «Жнівень». Ціханёнак можа і пажартаваць, і падзяліцца трапнымі думкамі пра сучаснае жыццё — думкамі, характэрнымі для вяскоўцаў сталага веку. «Ну якая зямля, якія гектары, калі мне штомесяц пенсію даюць. А тым, каму не даюць, дык яна тым больш не трэба... Няма тых людзей, хто за зямлю калаціўся. Закапалі даўно. І ўсё! Спі, малец». Такія рэплікі складана прыдумаць, больш верагодна, што аўтар занатоўвае іх «з натуры». Таму чытач лёгка паверыць, што Уладзімір Сціпан і дзед Ціханёнак разам ляжалі ў бальнічнай палаце, елі неверагодна смачнае сала і размаўлялі пра знешнюю палітыку — а ў выніку атрымалася дасціпная партрэтная замалёўка.

**Сумніўна.** Рубрыка «Галасы свету» прапануе пазнаёміцца з гісторыяй казахскага літаратурна-мастацкага часопіса «Прастор», а таксама з творчасцю казахскіх паэтаў. Добрае ўражанне пакідаюць вершы Надзеі Чарновай (перакладчыца Валерыя Радунь): дзеці назіраюць за першым палётам шпачкоў, і чатыры страфы поўняцца вясёлай няўрымслівасцю і пошумам летняга лесу... А вось адкрывае падборку казахскай паэзіі верш Сяргея Комава «Нараджэнне» (перакладчыца Юлія Алейчанка), дзе апяваецца святкаванне 50-годдзя рэвалюцыі: «Са сцягамі хадзілі суседзі вясёлыя, / І гарэла сяло ў агні кумача <...>». Сёння такія радкі падаюцца анахранізмам, хаця шчаслівыя савецкія вёскі паўстагоддзя таму, магчыма, у Казахстане існавалі...

**На суд чытача.** Тры літаратурныя партрэты знаёмяць з пісьменнікамі розных пакаленняў. Аляксандр Вашчанка распавядае пра Анатоля Вярцінскага, герой Барыса Яфімчыка — адзін з самых незвычайных беларускіх аўтараў Ганад Чарказян. Далёка не кожная нацыянальная літаратура багатая на пераклады з курдскай мовы. Беларусам пашанцавала, адсюль інтрыга: як жыхар Араратцкай даліны патрапіў у Мінск?.. Арнольд Макмілін звяртаецца да творчасці Антона Францішка Брыля: уважліва разглядае вершы і пераклады (зборнік «Не ўпаў жолуд») ды казачную аповесць «Ян Ялмужна» і робіць выснову, што ўнук Янкі Брыля — «выбітны творца свайго пакалення». Да творчых партрэтаў дадаецца аўтапартрэт — эсэ Міхася Кенькі «Мой кнігазбор». Хатняя бібліятэка — выдатнае сведчанне пра густы, зацікаўленні і чытацкія прыярытэты свайго ўладальніка, да таго ж успаміны пра сустрэчы з кнігамі — цікавы матэрыял для тых, хто цікавіцца гісторыяй чытання.

***

**Выдатна**, калі літаратурны часопіс мае чым парадаваць і аматараў прозы, і тых, хто шануе слова паэтычнае. Для першых лістападаўскі «Нёман» падрыхтаваў «Два аповеды» Ірыны Шатыронак, для другіх — нізку вершаў Дар'і Дарошка. Пры ўсёй рознасці, што размяжоўвае гэтыя роды літаратуры — прозу і паэзію, у творах спадарыні Ірыны і спадарыні Дар'і ёсць адна яднальная рыса, якая падкупае чытача бяспройгрышна: дзіцячая шчырасць. Гэта з'ява іншай прыроды, калі параўноўваць з інфантыльнасцю ў мастацкіх тэкстах. Дзіцячасць выяўляецца ў непасрэднасці і натуральнасці, якія дазваляюць і арыгінальна, і кранальна паглядзець на рэчы даўно звыклыя. Такая «дзіцячая» інтанацыя стварае ілюзію наіўнасці аўтарскага бачання, за якой, аднак, хаваецца шмат недамоўленага, а значыць, твор не пакіне вас абыякавым, пра што б ні вялася гаворка: пра сустрэчу з дзёрзкімі цыганкамі ці пра самую светлую мару, пра побыт састарэлых сужэнцаў альбо крохкае першае каханне. Што да згаданай інфантыльнасці, яна зазвычай бачная ў прыўкрашванні рэчаіснасці, у экзальтаванасці, выкліканай надуманым пачуццём. На жаль, штучнасць гэтая зазвычай заўважная чытачу. І, зноў жа, выдатна, што Ірына Шатыронак не сапсавала ёю два цудоўныя апавяданні, а Дар'я Дарошка — вершы, аб'яднаныя красамоўнай назвай «Я знаходзіла патрэбныя словы».




**Сумніўна**, ці, прынамсі, эксцэнтрычна выглядае сёння стылізацыя вершаў пад рускую паэзію сярэдзіны XIX стагоддзя. Узнёслы ледзьве не да прарочых вершыняў радкі Андрэя Скарынкіна прыводзяць да пытання: а ці не пародыя гэта?..

**На суд чытача** мы пакінем гэтым разам апавяданне Раісы Дзейкун «Палевікі і палешукі». Праз пераклад на рускую мову твор, пэўна, згубіў шмат ад першапачатковага каларыту. Аднак побытавыя асаблівасці паваеннага Палесся, а таксама некаторыя мясцовыя паданні засталіся.

***

**Выдатна.** У п'есе Георгія Марчука «Святло вышыні» закранаецца вялікая колькасць найбольш вострых пытанняў культурнага жыцця сучаснасці. Галоўныя героі п'есы — кінарэжысёр і артысты — шукаюць сродкі на здымкі мастацкага фільма пра Францыска Скарыну, і пошукі іх прыводзяць не толькі ў Міністэрства культуры, але і ў прыватнае турыстычнае агенцтва, модны начны клуб і казіно... Грашыма, аднак, добрую справу ніхто падтрымаць не хоча. Рэжысёру трэба або адмовіцца ад сваёй ідэі, або зарабляць грошы на яе ажыццяўленне сумнеўнымі спосабамі. Сітуацыя, калі выканаўца ролі Скарыны Дзяніс Барэйша і выканаўца ролі жонкі першадрукара Вікторыя Прылюбка вымушаны іграць (у спадзеве атрымаць спонсарскую дапамогу) перад уладальнікам начнога клуба, у той час як з іх спінамі адбываецца стрыптыз-шоу, выглядае... скрушна і безвыходна. Мабыць, менавіта такой абсурднай гіпербалізацыяй імкнуўся пісьменнік падкрэсліць становішча культуры ў сучасным грамадстве і ўзровень яе ўспрымання. Мяркую, п'еса надзвычай актуальна глядзелася б на сцэне сталічнага тэатра і абавязкова атрымала б шмат, магчыма і неадназначных, водгукаў.




**Сумніўна**, што празаічныя творы наймаладзейшых аўтараў — Настассі Нарэйка і Андрэя Сідарэйкі — не выклічуць у чытача расчаравання пасля гучных «прэзентацый», змешчаных пад іх фотаздымкамі.

**На суд чытача** прапаноўвае свае апавяданні ў жанры іранічнай фантастыкі Серж Мінскевіч. Аматарам знаёміцца з разнастайнасцю літаратурных пошукаў, безумоўна, будуць цікавыя «фантастычныя шаржы» «Дождж разняволення», «Злавіць няўлоўнае», «Даруйце, я вас з'ем». Аднак прыхільнікам класікі ўсё-ткі больш прыйдуцца даспадобы тыя апавяданні, дзе больш шаржу і псіхалагічнай заглыбленасці, але менш фантастыкі, — «Проста фантастыка», «Акно ў сцяну».

**Алеся ЛАПІЦКАЯ,**
**Наста ГРЫШЧУК,**
**Жанна КАПУСТА**

*Надрукавана ў «Полымі»*

# Тэатр як монстр?

«Вялікі той акцёр, які прымушае гледачоў забыць пра дэталі», — заўважыла аднойчы знакамітая французская артыстка Сара Бернар. І сапраўды, калі тэатр уражвае сустрэчай з мастацтвам, то ў прыцемненай зале менш за ўсё хочацца думаць пра акалічнасці творча-вытворча-арганізацыйна-адміністрацыйнага працэсу, без якога не абыходзіцца ніводны прэм'ерны спектакль. Але даведацца пра гэта цікава — тым больш, калі храналогія падзей перапыняецца развагамі-адступленнямі вядомага тэатральнага крытыка.

Пісьменніца і журналістка Таццяна Мушынская прапануе зазірнуць не за кулісы, а ў кабінеты дырэкцыі і рэпетыцыйныя залы, дзе падчас паседжанняў мастацкай рады вырашаюцца лёсы спектакляў, размяркоўваюцца ролі, вызначаюцца тэрміны... Нагода — пастаноўка оперы «Доктар Айбаліт», якая была прадстаўлена маленькім і дарослым гледачам 4 кастрычніка 2015 года ў Нацыянальным тэатры оперы і балета. Таццяна Мушынская — аўтар лібрэта, чалавек, найбольш зацікаўлены ў пастаноўцы спектакля, творчая гісторыя якога стала часткай яе жыцця на цэлыя чатыры гады. «Такім чынам, перад вамі невялікая дакументальная аповесць у дзённікавых запісах і адступленнях» — так прадстаўляе аўтар свой твор пад назвай «Гісторыя аднаго "Доктара", альбо У тэатральных лабірынтах», надрукаваны ў лістападаўскім нумары «Полымя».

Галоўныя героі аповесці — шматлікія «мамкі-нянькі» спектакля, сярод якіх кампазітар Марына Марозава, першы намеснік генеральнага дырэктара тэатра Уладзімір Рылатка, рэжысёр Міхаіл Панджавідзэ... Пра ўласнае стаўленне да справы Таццяна Мушынская распавядае «як ёсць»: не хавае, што захопленасць ідэяй на стадыі дапрацоўкі можа змяніцца нянавісцю і раздражненнем, і, тым не менш, прэм'ера ўсё адно аказваецца чаканым святам. Невялікія адступленні, у якіх аўтар распавядае пра прызначэнне лібрэта і жанр рамана, пра развіццё ўласных стасункаў з тэатрам («Тэатр як храм» і «Тэатр як монстр»), не менш каштоўныя за апісанне падзей. Істотныя для Таццяны Мушынскай дэталі («праз нейкі час нават дзівішся: няўжо знайшоў хвіліну, каб зафіксаваць падрабязнасці, рэплікі, уласныя адчуванні?») часам падаюцца збыткоўнымі, затое рэмаркі чалавека, які мае багаты досвед творчай працы, выклікаюць вялікую цікавасць.

Таямніцы тэатра заўсёды прываблівалі аматараў, далёкіх у рэальным жыцці ад дзівоснага свету мастацтва. Таму аповесць займее нямала чытачоў, нехта з якіх, відома, набудзе квіток на «Доктара Айбаліта» — першую оперу айчыннага кампазітара, пастаўленую на сцэне Вялікага тэатра ў XXI стагоддзі.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

*Надрукавана ў «Нёмане»*

# Перамагае дружба?..

**Як пазначае прамова да публікацыі, пра якую пойдзе гаворка, «с целью помочь [молодым людям] выйти на следующий уровень творчества» Пастаянны камітэт Саюзнай дзяржавы праводзіць пісьменніцкі конкурс «Мост дружбы». Лістападаўскі «Нёман» дае магчымасць пазнаёміцца з пераможцамі конкурсу, якія, да слова, ладзіўся трэці раз.**

Трэба прызнаць, што гэтым разам найбольшай увагі заслугоўваюць творы расійскіх аўтараў. Бо, прыкладам, апавяданне Алёны Папко пакідае шмат пытанняў (як сонца можа падымацца ў рытме вальса?..). Яшчэ цікавы момант: на пытанне чараўніка «Што дапаможа кіраваць магічным гадзіннікам?» хлопчык бадзёра адказвае: «Каньяк!». Логіка ў аповедзе ахвяруецца на карысць задуме: даведзці, што найбольшае ў свеце чараўніцтва — сяброўства.

Нататкі Вольгі Маладцовай, падаецца, выглядалі б арганічна ў асабістым дзённіку ці як падарожныя запісы на памяць. Але як самастойны, цэласны празаічны тэкст?..

Сярод беларускіх аўтараў першынства варта аддаць Івану Малініну. Так, яго аповед «Кот чалавека са скрыпкай» не распавядзе пра жыццё сучаснага беларуса ці ўвогуле маладзёна, але тэхнічна тэкст зроблены годна. Насамрэч, твор нельга адносіць да класічнага аповеду; малая форма і цікавы фінал могуць нагадаць навелу, але для яе не хапае драматычнай лініі, выразна акрэсленага сюжэта. Найбольш «Кот...» падобны да сімбіёзу маналога як жанру і лірычнага абразка.

Фазу вучнёўства вось-вось пераадолеюць расійскія канкурсанты Артур Жураўлёў і Марта Райцэс. Прынамсі, іх апавяданні выглядалі б годна й па-за межамі конкурсу. Першы згаданы аўтар — пецярбуржац, і, паддаўшыся стэрэатыпам, скажу, што гэта заўважна. Тэма — балет, жыццё дзеля мастацтва. Стыль набліжаны да імпрэсіяністычнага, і ў той жа час аўтар верны натуралізму, а такое спалучэнне, безумоўна, уплывае на псіхалагічны стан чытача (сугестыўнасць для піцерскіх аўтараў традыцыйная, калі, прынамсі, меркаваць па класіцы). Марта Райцэс, наадварот, аўтар стрыманы, непадуладны плыні свядомасці, фіксацыя ў яе — на яркіх, значных для разумення героя/сітуацыі дробязях. Асобныя фрагменты тэксту (напэўна, праз настрыўнае гучанне) нагадваюць «Ціхі Дон», хоць, вядома ж, дзіўна параўноўваць малую і эпічную прозу, нобелеўскага лаўрэата і пачаткоўца.

Ягор Кулікоў, Сяргей Чарноў і Зарына Бікмуліна паставілі на драму і, як бачым, выйгралі, хоць часам у гэтай сваёй драматычнасці нагадваюць дзяўчо, якое ўскараскалася на маміны абцасы, верачы, што гэта дадасць ёй дарослага.

Мяркую, іншым маладым празаікам таксама будзе цікава пачытаць публікацыю па выніках конкурсу. І, быць можа, іх меркаванне пра фіналістаў не супадзе з меркаваннем аўтара гэтых радкоў?..

**Наста ГРЫШЧУК**

# Папярэднік золку: уся праўда пра Андрэя Мрыя

**Навуковыя манаграфіі па даследаванні творчасці пісьменнікаў, як правіла, прызначаныя для вузкага кола чытачоў — літаратуразнаўцаў, філолагаў, студэнтаў, настаўнікаў.**

Гэта заканамерна: размова ў навуковай працы вядзецца на такім узроўні, што ўспрыняць яе здольны толькі абазнаны ў тэме чалавек. Зразумела, першасная задача навукоўца — даследаванне творчай спадчыны. Асветніцкія задачы ён калі і вырашае, то хіба ў другую чаргу. Аднак часам навуковыя манаграфіі чытаюцца як сапраўдны раман — з захапленнем, прадчуваннем мастацкіх адкрыццяў і раскрыццём інтрыгі. Такая характарыстыка ні ў якім разе не аспрэчвае высокі навуковы ўзровень, але, наадварот, падкрэслівае прафесіяналізм даследчыка, які здолеў адначасова вырашыць некалькі задач, звярнуцца да чытачоў розных зацікаўленняў. Менавіта ў кантэксце такіх разважанняў хочацца распачаць гаворку пра манаграфію Валерыя Назарава «Тайнапіс Андрэя Мрыя. Падтэкст рэалій у творчасці пісьменніка», якая пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская навука».

Часам кажуць, што філалогія — не матэматыка: няма і не можа быць канкрэтыкі, адназначнасці, важны не тэкст, а яго інтэрпрэтацыя. Маўляў, калі філолаг паставіць перад сабой мэту, то з аднолькавым поспехам зможа з чорнага зрабіць белае і наадварот: даказаць, што слабы твор — шэдэўр мастацтва (і наадварот), вытлумачыць аўтарскую пазіцыю адваротна яго асабістай волі. І зробіць гэта доказна і аргументавана. Можа быць, прычына такога іранічнага, але разам з тым і непаважлівага стаўлення да працы літаратуразнаўцаў крыецца ў тым, што вялікая колькасць навуковых прац, выдадзеных за апошнія паўстагоддзя, сапраўды хварэла на пустаслоўе і адвольнасць інтэрпрэтацый, калі недастатковая вывучанасць альбо нават некампетэнтнасць падмяняліся дадумваннем, «фантазіямі».




Валерый Назараў, як падаецца, прадстаўляе новае пакаленне беларускіх літаратуразнаўцаў і, адпаведна, новыя тэндэнцыі ў асэнсаванні гісторыі беларускай літаратуры. Імпануе ў стылі даследчыка канкрэтнасць у выказванні меркаванняў і фармуляванні высноў. Вядома, ёсць і аб'ектыўнае тлумачэнне: сучасны даследчык пазбаўлены ад неабходнасці ўзгадняць свае навуковыя пошукі з партыйнымі пастановамі і мае магчымасць называць рэчы сваімі імёнамі. Гэта, думаецца, тое, чаго так доўга не ставала беларускаму літаратуразнаўству. І без чаго, па сутнасці, цяжка весці размову пра стварэнне адэкватнай навуковай канцэпцыі. Аўтар манаграфіі звяртаецца да гэтай праблемы, аналізуючы даследаванні І. Чыгрына, Я. Лецкі, Д. Бугаёва, З. Драздовай, М. Мішчанчука, П. Васючэнкі. У назве В. Назараў зрабіў акцэнт на самым актуальным на сучасным этапе вывучэння творчасці Андрэя Мрыя: менавіта ў вывучэнні падтэксту ключ да разгадкі і прыроды таленту, і значнасці многіх твораў.

Нягледзячы на тое, што В. Назараў раз-пораз на старонках манаграфіі ўдакладняе: вывучэнне пэўных аспектаў творчай спадчыны Андрэя Мрыя — усё яшчэ справа будучыні, прадстаўленая «расшыфроўка» тайнапісу знакамітага беларускага сатырыка падаецца даволі падрабязнай, дэталёвай і поўнай. Даследчык звяртаецца не толькі да літаратуразнаўчых аспектаў. Але разглядае творчасць А. Мрыя ў непарыўнай сувязі з фактамі яго біяграфіі і ўмовамі грамадска-палітычнага жыцця. Надзвычай падрабязна аналізуецца сувязь матываў, вобразаў, герояў твораў і нават іх маўлення і асобных выказванняў з працай пісьменніка ў іншых галінах дзейнасці (публіцыстыка, фалькларыстыка, краязнаўства, мовазнаўства). У выніку паўстае цэласная карціна, выбудоўваецца самастойны, так бы мовіць, сюжэт — творчай эвалюцыі Андрэя Мрыя, з паслядоўным разгортваннем падзей, месцам і часам дзеяння, сваімі героямі і антыгероямі. Абгрунтаванасць высноў дазваляе прыняць меркаванне даследчыка не за дапушчэнне, але за ісціну.

Валерый Назараў не абмінае пытанняў адносна псеўданіма пісьменніка, адзначае ўжо вядомыя і распаўсюджаныя версіі (Мрый — ад «мара», «мроя», «мроіць»), але разам з тым звяртае ўвагу і на іншыя магчымыя тлумачэнні: калі арыентавацца на значэнне дзеяслова «мрѣять», зафіксаванае ў слоўніку У. Даля, — «мільгаць, мітусіцца, мігцець, маячыць», *то «Мрый — нехта заўважны, але каго складана злавіць, наблізіць і дэталёва разгледзець»*; калі ж звярнуцца да значэнняў «няясна бачыцца, абазначацца ў цемры», «займацца на дзень, пачынаць святлець», то *«Мрый — нехта, каго пакуль яшчэ цяжка разгледзець у змроку; нейкі ледзь заўважны арыенцір або ледзь прыкметная крыніца святла ў прыцемках. І ў той самы час ён — ледзь улоўны папярэднік золку, які прыходзіць на змену непрагляднай цемры ночы і пачынае праясняць тое, што не было бачна раней, гэткі перадранкавы змрок»*.

Шмат увагі прысвяціў даследчык неабходнасці падрыхтоўкі да друку навукова каментаванага Збору твораў А. Мрыя. У асобным раздзеле «Стан літаратурнай спадчыны. Канцэпцыя навукова каментаванага збору твораў» разглядаецца вялікае кола звязаных з гэтай тэмай праблем, адзначаецца, што *«напісанне гісторыка-літаратурнага, рэальнага і слоўнікавага каментарыя да твораў пісьменніка будзе зроблена ўпершыню»*.

В. Назараў, аспрэчваючы некаторыя высновы іншых даследчыкаў адносна прыроды таленту і канцэптуальнай сутнасці твораў, прапануе вобраз іншага, невядомага дагэтуль Мрыя. Выкарыстоўваючы назву манаграфіі М. Мушынскага «Праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Міхася Зарэцкага», можна сказаць, што беларускае літаратуразнаўства атрымала нарэшце *праўдзівую гісторыю жыцця і творчасці* Андрэя Мрыя. Нездарма ў заключэнні В. Назараў ставіць такія пытанні: *«Якога кшталту чалавекам быў ён? Ці дастаткова падстаў лічыць яго, як і раней, па большай частцы летуценнікам?»*

Калі гаворка заходзіць пра актуальнасць вывучэння беларускай класікі, часта даводзіцца чуць: «Ну колькі ўжо можна адно і тое ж з кута ў кут цягаць! Колас — Купала — Багдановіч! Мужыкі ды калаські!» Дастаткова задаць толькі адно пытанне, якое, хутчэй за ўсё, застанецца без адказу: «А сапраўды, што мы ведаем пра Коласа, Купалу, Багдановіча, Дубоўку, Бабарэку, Мрыя?» Спіс, зразумела, можна доўжыць. Вось чаму такой патрэбнай і актуальнай падаецца праца Валерыя Назарава. Вялікая навуковая значнасць яе бясспрэчная, аднак хочацца верыць (мроіць), што прапанаваная *«праўдзівая гісторыя жыцця і творчасці Андрэя Мрыя»* пойдзе далей за акадэмічныя кабінеты ды студэнцкія аўдыторыі.

**Жанна КАПУСТА**

# Задоўжанае вяртанне

**Рухацца наперад прасцей, калі ёсць досвед, на які можна абаперціся. Сапраўды, як часта мы ў чарговы раз «вынаходзім ровар» замест таго, каб звярнуцца да створанага нашымі папярэднікамі? Зразумела, часам (з розных прычынаў) мы папросту не ведаем імёнаў людзей, што сто гадоў таму прапанавалі вырашэнне праблем, якія ў беларускай рэчаіснасці па-ранейшаму застаюцца актуальнымі. Магчыма, менавіта ў гэтым — каб выратаваць імёны ад забыцця — галоўны сэнс выдання спадчыны літаратараў і культурных дзеячаў мінуўшчыны.**

У 2015 годзе ў выдавецтве «Кнігазбор» выйшла кніга «Выбраных твораў» Вольгі і Сяргея Сахаравых, укладзеная М. Казлоўскім і С. Панізнікам. У кнігу ўвайшлі паэзія і драматургія Вольгі Сахаравай, публіцыстыка і запісы народнай творчасці Сяргея Сахарава.

Вольга і Сяргей Сахаравы — настаўнікі па прафесіі і пакліканні — былі ў цэнтры актыўнай дзейнасці па арганізацыі беларускага школьніцтва на тэрыторыі латвійскай дзяржавы ў 1918 — 1932 гадах. Найбольш плённай сталася дзейнасць Сяргея Сахарава на пасадзе дырэктара Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі, якая стала сапраўдным асяродкам выхавання маладой беларускай інтэлігенцыі і роля якой у беларускай гісторыі ўсё яшчэ не займела належнага асэнсавання. Хочацца верыць, што выданне выбраных твораў Сахаравых у значнай ступені паспрые гэтаму. У артыкулах, прысвечаных пяцігоддзю і дзесяцігоддзю Дзвінскай гімназіі, а таксама юбілеям яе найвыбітнейшых настаўнікаў М. Дзямідава, Я. Кастылюка, Г. Плыгаўкі, прадстаўлены С. Сахаравым дастаткова багаты фактычны матэрыял.

Калі весці гаворку пра творчую спадчыну Вольгі Сахаравай, то найбольшую цікавасць выклікае яе праца ў галіне патрыятычнага выхавання малодшых школьнікаў, а менавіта інтэрпрэтацыі гістарычных сюжэтаў на ўзроўні ўспрымання, даступным адпаведнай узроставай катэгорыі. В. Сахарава выбрала для гэтага шлях тэатральных пастановак. Вядома, можна разважаць пра недасканаласць п'ес з пункту гледжання законаў драматургічнага жанру, аднак разам з тым важна і ўлічыць яе педагагічны досвед.

А вось артыкулы Сяргея Сахарава, змешчаныя ў латвійскай перыёдыцы 1920 — 1930-х гадоў, «Дабро і харство ў жыцці», «Беларусы і іх культура», «Абавязак гонару рускіх. Адказ на ліст у рэдакцыю "Абавязак гонару беларусаў"», «Бацькі і дзеці» ўражваюць высокім узроўнем прафесіяналізму. Супярэчлівыя думкі ўзнікаюць, калі чытаеш публіцыстыку амаль стагадовай даўніны і адуваеш яе актуальнасць у дні сённяшнім. З аднаго боку, засмучаешся, што і праз такі вялікі прамежак часу многія відавочныя рэчы па-ранейшаму трэба даводзіць, нібыта і не было гэтага няпростага стагоддзя ў нашай гісторыі. З іншага ж, — пранікаешся павагай да чалавека, які ў 1929 годзе змог весці палеміку на заўсёды складаную для беларусаў тэму нацыянальнага самавызначэння, адзяляўшы асабістыя эмоцыі. Для многіх нашых сучаснікаў гэта няпростая задача, а сярод сучаснікаў Сяргея Сахарава такое і ўвогуле ўявіць немагчыма. Ён не выказвае крыўду на апанентаў, якія адмаўлялі беларускай нацыі ў існаванні і называлі яе мову штучнай, выдуманай, не абараняецца, не абражаецца і не абражае ў адказ, але прапаноўвае пошук шляхоў да паразумення выключна




ў канструктыўным рэчышчы: *«З гэтай мэтай было б пажадана ў Дзвінску або Рызе стварыць руска-беларускае таварыства для ўзаемнага азнаямлення з той і другой культурай ці ўсталяваць больш цесны кантакт паміж культурнымі беларускімі і рускімі арганізацыямі, напрыклад, можна было б ладзіць лекцыі, літаратурныя вечарыны і г. д.»*. Іншая справа, што астатнія ўдзельнікі палемікі не былі гатовыя весці размову на такім высокім узроўні і ўвогуле наўрад ці былі зацікаўленыя ў пошуку кампрамісу.

У кнігу ўключаная грунтоўная праца Сяргея Сахарава «Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў», якая мела сваёй мэтай пазнаёміць *«з духовым тварам беларускае нацыянальнае меншасці ў Латвіі як асобнае этнічнае групы»*. У асобны раздзел пад назвай «Гарыць свечка памяці» вылучаныя матэрыялы, прысвечаныя жыццю і творчасці Сахаравых, кранальныя ўспаміны дачкі Ірыны Вількель-Сахаравай.

У прадмове М. Казлоўскага адзначаецца, што *«зацягнулася вяртанне ва ўлонне роднай культуры двух знакавых постацей беларускага культурна-асветнага руху ў міжваеннай Латвіі. І не проста зацягнулася, а недаравальна задоўжылася. І самае крыўднае, што такое адбываецца ў адносінах да людзей незвычайных, маштабных, адметных сваёй шматграннай універсальнасцю, грамадзянскай мужнасцю і чалавечай абаяльнасцю»*. Наклад кнігі выбраных твораў Вольгі і Сяргея Сахаравых надзвычай сціплы — сто асобнікаў. Гэтага відавочна мала, каб зрабіць вяртанне іх спадчыны ў кантэкст беларускай культуры паўнавартасным, але дастаткова, каб абудзіць цікавасць і падштурхнуць да больш актыўнага навуковага асэнсавання.

**Жанна КАПУСТА**



Зінаіда ДУДЗЮК

## Снег

*Ён спускаецца зверху паволі,
Быццам Бог сваю світу атрос,
Ці мільёны прасветлых анёлаў
Апусціліся раптам з нябёс.
Мне зіма сёння скарбы даверыць —
Сцерагчы іх у соннай цішы.
Белы дах, нібы аркуш паперы,
Хоць ідзі на ім верш запішы.*

*Я з балкона на свет пазіраю
І дзіўлюся святочнай красе:
Фарбы белае квецені мая
Лёгкі ветрык з галін разнясе.
Мы з ім помнім духмянасць пялёсткаў
У вішнёвым садочку маім,
Хоць дарэмна вясну галёкаць
Пасярод непазбежнай зімы.*

*З гэтым ветрам даўно мы ў змове.
І напэўна ведаю я,
Што дыхне ён аднойчы вяснова,
Каб адтала чуйна зямля.
Каб сагрэла карэнне ў нетрах,
Абудзіла садочак ад сну,
Шмат турбот яшчэ будзе ў ветра,
Покуль ён прывядзе вясну…
Хто я тут? Назіральнік часовы,
Здатны толькі міжволі сачыць,
Як ціхмяны паўзмрок вечаровы
На плячы маім сеў адпачыць.*

## Адчуванне

*Час ляціць ніадкуль і нікуды.
І дарэмна стары каляндар
Лічыць дні, а гадзіннік — мінуты,
Час цячэ скрозь мяне, як вада,
І мяняе заўзята аблічча,
Забірае ў вечнасць сяброў.
Смешны люд нешта множыць і лічыць,
Вымяраючы злом ці дабром.
Мы жывём быццам на скрыжаванні
Невядомых нікому шляхоў.
Для адных гэта наканаванне,
Іншым — вольнасць ад рабскіх акоў...*

***

*Верш, як жыццё, не адкладзеш
на потым —
Натхненне зняве, знікне ўзнёслы дух,
Заявяцца турботы ды згрызоты,
Наклічуць верад непазбыўных дум.*

*Душа, нібы забітая крыніца,
Пачне паціху ў целе паміраць.
Той верш, магчыма, некалі прысніцца,
Але не будзе часу ўспамінаць...*

## Адказ

*Я не бязродная! О, не!
Мне папярэднічалі людзі,
Што ў мірны час і на вайне.
Святыя словы неслі ў грудзях.
Мой прадзед быў асілак першы
На вёску мерай у тры вярсты.
Яму шапталі лозы вершы
І клёны скідвалі лісты.
Вядомы дзед як майстар ладны,
Якога варта пашукаць.
І не было такой прылады,
Каб ён не здолеў змайстраваць.
Бабулі хораша спявалі,
Душу ўкладалі ў кожны сказ,
Калі дачушак спавівалі
І неслі ў поле на руках.
Была цяжкой і чорнай праца.
І каб яе штодня цягнуць,
Умелі песнямі натхняцца…
І мне, як ім у даўніну,
Турбот хапае, смутку, стомы,
Ды выпадае й светлы час.
А продкаў клопат падсвядома
Я адчуваю на плячах,
Хоць шмат у даўнім таямніцаў,
Нязведаных яшчэ да дна,
Як скарбам тым не прычасціцца,
Што назапасіла радня?..
Я не бязродная! О, не!
Мой род на тысячу каленаў
Ствараў мяне. І назаўжды
Яму я застануся вернай.*

***

*Зоркі даспяваюць толькі ў жніўні,
Падаюць, як яблыкі з галін.
Іх змываюць вечарамі ліўні
Нам на шчасце ці на успамін.*

*Колькі іх злятае ўніз штоночы,
Колькі іх згарае ў вышыні!
Толькі нашу радасць хтось сурочыў,
Абдзяліў надзеяй нашы дні.
Памаўчым, падумаем пра ўчора.
Заўтра будзе новы зарапад.
Упадзе на шчасце мноства зорак,
Толькі б зноў той час нам не праспаць...*

***

*Нечый шлях тут завершаны,
Нечый — ледзь распачаты.
Увойдзем у Ясельду грэшныя,
Каб адчуць яе святасць.
Не замуцім вадзічку,
Рыбу не патрывожым,
Не пашкодзім крынічку,
Што струменіцца гожа.*

*Рады неба і хвалі,
Рады лозы і лодкі,
Што сябе не схавалі мы
Ад вірлівай паводкі
Пачуцця, захаплення
У раскрыленых душах,
Што ў кожным імгненні
Нашых словаў нязмушаных —
Толькі любасць з даверам,
Толькі ўзнёслая радасць.
Мы не ведаем быццам,
Што на свеце ёсць здрада,
Што падман вяжа сеці,
Што туга — за парогам…
Шчодра сонца нам свеціць
Над сумеснай дарогай.*

Фота Кастуся Дробава.





Валеры ПАЗНЯКЕВІЧ

## Матулі

*Мама,
твае вочы
пазіраюць на мяне
з вышыні беларускага неба.
Мама,
твае шчаслівыя думкі
я саграваю і нясу
ў сваім сыноўскім сэрцы.
Мама,
твае жыццёвыя турботы
заўсёды хвалююць мяне,
бо калі б не ты, —
я б ніколі не ўбачыў
прыгажосці сваёй зямлі,
не прысвяціў табе гэты верш,
не зведаў душэўнага спакою,
спагады і любові.
Мама,
я ўдзячны табе за тое,
што ты ў мяне ёсць,
Бо слова «мама» —
самае прыгожае і найдаражэйшае
з усіх слоў,
якія мне
давялося чуць на зямлі.
Ад яго заўсёды
сыходзіць
душэўнае цяпло
і дабрыня.
З ім хочацца жыць,
любіць, кахаць,
марыць аб вечным
і заўсёды памятаць пра цябе.
Бо ты ў мяне самая мудрая,
самая прыгожая, самая шчырая,
самая любімая:
Бо ты — мая мама.*

## Ружа

*Ружа сэрца мне працяла цернем,
Бо я моцна кветку палюбіў:
Накалоў іголкаю на целе,
Кроў-расу да вуснаў прыгубіў.*

*Красавала ружа, бы жывая —
Кожны дзень шыпы яе раслі.
А яна мне ў вочы пазірае,
Думае, што боль я той прысніў.*

*Я ж цярпеў яго з апошніх сілаў,
Усміхаўся ружы, як раней.
Думаў, як памру, дык у магілу
З кветкай будзе класціся спраўней.*

*Адабрала ружа мае сілы,
Напілася свежае крыві,
Каб вачам здалося неба сінім,
Каб душа кружляла ў ім тры дні.*

*Калі што — мне не дарыце ружы —
Лепш рамонкі, жыта, васількі…
З імі цёпла будзе мне ў час сцюжы —
З ружай я ж вянчаны на вякі.*

## Пяю Беларусь

*Пяю Беларусь, як калісьці Купала
Той песняй надзею радкоў саграваў.
Пяю Беларусь пад гучанне цымбалаў,
Каб сэнс гэтай песні Вам сэрцы кранаў.*

*Пяю Беларусь, дзе надзей маіх мары
Світанкам над замкам старым узышлі.
Пяю Беларусь, каб азызлыя хмары
Мой край стараною другой абышлі.*

*Пяю Беларусь, дзе літвінскія назвы
Да гэтага часу вярэдзяць душу.
Пяю Беларусь, што з'яднала нас разам,
Пяю Беларусь, ёй прызнанні пішу.*

*Пяю Беларусь, бо без гэтае песні
Не будзе любові, не будзе жыцця.
Пяю Беларусь, дзе надзея ўваскрэсне,
Дзе песня ўзляціць над зямлёю, бы сцяг.*

*Яе заспяваюць нашчадкі тых вояў,
Што край баранілі ад войнаў, бяды…
Пяю Беларусь! — яе слова жывое,
Нібыта глыточак свянцонай вады.*



Кацярына РОЎДА

## Конкурс «ПЕРШАЦВЕТ»

***

*На радкі я нанізваю пацеркі-словы
Самай светлай, прыгожай
матулінай мовы!
Атрымаюцца новага верша каралі
Пра прыгожых пачуццяў
гарачыя хвалі,*

*Пра мядовыя вусны, любоў і пяшчоту,
Пра адносінаў сонца, а часам і слоту...
Пра блакітныя вочы, нібыта азёры,
Незабыўныя ночы, паездку на мора.*

*Напішу пра сваё неспакойнае сэрца,
Што ў палоне тваім,
трапятлівае, б'ецца.
Пра надзейныя, моцныя, цёплыя рукі
І душу, што табе аддала на парукі.*

*Нават дзень без цябе не жыву —
патухаю,
Разбаўляючы ў вершах тугое чаканне.
Я кахаю цябе, вельмі моцна кахаю,
Дзякуй богу за наша спатканне!*

***

*Наталяюся! Прагну! Малюся!
Сэрца ставіць душу на калені.
Я к табе, мой каханы, хілюся,
Кожны подых лаўлю ды імгненне.*

*Не сыходжу, бо заўтра ж вярнуся.
Толькі б зніклі маланкі раздору.
Нервы струнамі рвуцца — смяюся.
Дах зрывае без кропкі апоры.*

*І без даху з табой застануся,
Бо каханнем напоўнены грудзі.
Наталяюся! Прагну! Малюся!
Я твая! Так было, ёсць і будзе!*

***

*Ціхутка, таямніча і нясмела
Сняжынкі пакрывалі наваколле,
Бы ноч хто адарыў суќенкай белай
З узорам непаўторным на падоле.*

*Прыгожы падарунак атрымаўся,
Хоць ты рыхтуй для каравая цеста.
То, безумоўна, снежань пастараўся.
Сяброўка ноч цяпер яго нявеста.*

*І будзе незабыўная гулянка,
І здзейсняцца надзеі і жаданні,
Калі яго чароўная каханка
Не скіне зноў вясельнае ўбранне.*

*Калі знямога восень ваяваці —
Не толькі снежню зробіць гэтым
ласку.
Ну, а зіма з пяшчотай роднай маці
Пакажа людзям прыгажосці казку.*

*Ціхутка, таямніча і нясмела
Сняжынкі засцялілі двор зімовы,
І на душы трывожнай пасвятлела.
Усё гатова да Раства Хрыстова.*

## Конкурс «ПЕРШАЦВЕТ»



Юлія АЛЕЙЧАНКА




Размаўляем з мастаком Камілем Камалам, які з усмешкай заяўляе, што ён не «афігіцельны кніжны графік», але ўсё ж бярэцца віртуозна маляваць задуменных кітаянак для перакладных кніг. Прыгадваю, што нядаўна была ў Азербайджане, на яго Радзіме. Бачу заканамерны бляск вачэй.

— А калі?

— У сярэдзіне верасня.

— О, гэта самы камфортны час!

— Ага! Цёпла, ды не спякотна. Гранаты, фейхаа…

— І не кажы! А што паглядзела?

— Бакінскі бульвар, Каспій, Палац Шырваншахаў, Музей літаратуры, Музей дывана…

— О, і назвы ж запомніла, — зноў хітраватая ўсмешка.

…Ды як не запомніць! Паездка, запланаваная даволі даўно, стала нечакана прыемнай і яркай. Вырвацца хацелася хутчэй, той славуты глыток вольнага паветра каўтнуць… Ды і ў вушах назойліва гучыць матыў: «А мы турысты-авантурысты». Таму нават рэчаў хацелася ўзяць па мінімуме, з абавязковай трыяды «шчотка — расчоска — тапкі»…

Сур'ёзная жанчына на пашпартным кантролі ў аэрапорце ўсё ніяк не прапускае. Распісацца, як у пашпарце, назваць адрас прапіскі, дзень нараджэння, месца выдачы дакумента. Я, нецярплівая, ужо пачынаю злавацца і ледзь не прапаную яшчэ і станчыць перад акенцам. «Спокойствие, только спокойствие», — намагаюся стаць «прасветленай», як абаяльны мужчына з прапелерам. Вух, пранесла! Але час мяняць фота ў пашпарце…

Сіні «азалеўскі» самалёт плаўна набірае вышыню, усмешлівыя сцюардэсы раздаюць цукеркі, а пасля і смачны абед. Нашыя суседзі ўжо адкаркавалі пляшку каньяку, і прыгожая, у адкрытай саколцы, азербайджанка ціха спявае нешта меладычнае, незразумелае, а я соладка драмлю, быццам падклалі пад галаву тыя блізкія, пульхныя аблокі. Але ж неўзабаве і пасадка, апладысменты. Тры гадзіны праляцелі (прабачце за каламбур) незаўважна.

Таксіст, якога нам прапанаваў гатэль, ветлівы, нязвыкла маўклівы і нейкі надта інтэлігентны, хутка вязе па шырокіх цэнтральных вуліцах Баку. Я часта штурхаю Дзяніса за рукаў і па-дзіцячы здзіўляюся: «Пальмы!» А яшчэ — шматстайнасць гатункаў каменю, мармуру. Нездарма ж у «Брыльянтавай руцэ», каб паказаць гледачу экзатычнае замежжа, знялі менавіта Баку.

Але ж нарэшце дабраліся! Маленькі ўтульны гатэль размясціўся на саліднай вышыні, мы зараз «над горадам». Вакол — гасцінныя крамкі з він, садавінай, гароднінай ды іншымі радасцямі жыцця. Зайсці яшчэ паспеем! Падаем на ложак, здзіўляемся вельмі моцнаму кандыцыянеру (ну, вядома, тут жа днём было +28), а потым паволі разбіраем рэчы. Наперадзе яшчэ пяць дзён. Але ж не цярпіцца! І, пакаштаваўшы ў кавярні ўнізе незвычайна сытныя і вялікія салаты («цэзар» на азербайджанскі матыў з велізарнай колькасцю зеляніны і яек), выпраўляемся ў цэнтр прагуляцца каля сцен старога горада, фантанаў, набярэжнай. Што і казаць, Каспій увечары чароўны! Месяцовая дарожка, далёкія караблі, моцны, але роўны і гарманічны шум хваляў… І зноў жа шмат хто спявае проста каля вады, пад гітару. І добра-такі спяваюць. На слых — і нешта сучаснае, і песні з выразнымі ўсходнімі матывамі. Вось і на канцэрт пад зорным небам трапілі!

Потым, ужо вяртаючыся з прыморскага бульвара, нечакана пабачылі шахматны турнір у парку. Мужчыны з глыбакадумнымі тварамі ўпарта перасоўваюць вялікія драўляныя фігуры па намаляванай на асфальце дошцы. Канечне, тут жа традыцыйна праходзіць міжнародны шахматны фестываль *Baku Open*, вось і для аматараў такія вулічныя пляцоўкі наладзілі. Гледачоў, хоць і позні час, сабралася багата. Далучыліся і мы да чародкі цікаўных… Але ж трэба і паспаць пасля пералёту ды шпацыру. Насычаны выдаўся дзень! Ловім баклажанавы кэб з надта таварыскім (не тое што наш першы — «інтэлігент») таксістам Націгам і балакаем усю дарогу па тое-сёе.

— Зайздрошчу табе, дзяўчына ў цябе прыгожая! А сам чаму такую бараду носіш? Да Распуціна падобны…

Мы ад душы смяёмся, а напрыканцы запісваем нумары адно аднаго і дамаўляемся «патэліць», калі захочам пакаштаваць сапраўдных шашлыкоў. Бо Націг ведае такі рэстаран — закачаешся!

Раніца наступнага дня абяцае шыкоўныя сонечныя ванны. Уздымае настрой і пажылы мужчына на рэсэпшне, які вывучыў адмыслова для нас некалькі фраз па-беларуску:

— Прывітанне, сябры! Як справы?

— Выдатна!

— Поспехаў!

Едзем на аўтобусе зноў у цэнтр. Цікава, што ў грамадскім транспарце Баку — ніякіх квіткоў. Перад кіроўцам стаіць вялікая скрыня, дзе грошы раскладзены па наминале, і кожны пасажыр пры пасадцы ці выхадзе (як каму зручна), пакідае дваццаць мясцовых манет. Давяраюць людзям! А яшчэ тут абавязкова саступяць месца жанчыне, незалежна ад узросту. За ўвесь час нашага адпачынку я стаяла толькі некалькі разоў, калі аўтобус быў перагружаны… Але ўтрымацца на нагах тады было не так проста! Азербайджанцы — тыя яшчэ «ліхачы»! Ды і да дарожнай разметкі, святлафораў усе ставяцца вельмі проста. Паглядзеў, што няма машын, ды ідзі!

Сёння мы вырашылі наведацца ў славутую Дзявочую вежу, выявы якой — на паштоўках, магнітах, кубках… Натуральна, што наконт вежы — безліч легенд. Галоўныя, што таксама прадказальна, — пра няшчаслівае каханне. Па адной з версій, шах захацеў выдаць дачку за нялюбага — тая і скінулася з высокай вежы. Прынцыповая! Дый колькі ў нас, і ў суседзяў легенд падобных… Насамрэч, нават самі азербайджанцы не ведаюць дакладны ўзрост сваёй славутай вежы. Вельмі старажытная. Называлі раней XII стагоддзе, але стала зразумела, што памыляліся. Цяпер гавораць ужо пра даісламскую эру. Прычым лічаць, што Дзявочая вежа магла быць як храмам вогнепаклоннікаў, так і маяком (бо мора некалі падыходзіла акурат да яе сцен). Што ж, кожны абірае сабе найбольш цікавы варыянт… Ёй, загадкавай і сімвалічнай пабудове, быў прысвечаны нават першы азербайджанскі балет! Ды і сёння ёй прысвячаюцца фестывалі мастацтваў.

Няпроста было падымацца па крутых лесвіцах вежы ў доўгай сукенцы (ну, вядома ж, стылізавалася пад усходнюю жанчыну!) Хаця калі казаць шчыра, то азербайджанскія жанчыны апранаюцца вельмі дэмакратычна. Дзяўчаты часта ў джынсах і кедах, жанчыны — у прыгожых сукенках, спадніцах, на абцасах. Словам, лепата, як кажуць! Але гэта адхіліўшыся ад тэмы. Дык вось, цяпер у Дзявочай вежы шыкоўныя сучасныя экспазіцыі, што распавядаюць пра гісторыю, культуру, быт азербайджанцаў у розныя часы, і, натуральна, пра лёс самой вежы. Шмат інтэрактыўнасці, сэнсарных кніг, галаграм! Як і ў іншых музеях Баку. Пазнаёміўшыся з экспазіцыямі на кожным паверсе вежы, мы нарэшце выходзім на аглядную пляцоўку. Робім абавязковае сэлфі — і спускаемся. Далей, па прыгоды!

Хочацца паглядзець у дзённым святле стары горад. Цудоўныя вузенькія вулачкі. У расчыненых дзвярах — рознакаляровыя кавалкі чыйгось жыцця: дыванкі, посуд… Сушыцца бялізна на вяроўках, бо з-за вільготнага клімату ў закрытым памяшканні нічога не сохне, самі ў гэтым пераканаліся. І шмат пестуноў-катоў. Смяемся з таго, што «звяры» нам трапляюцца нейкія дробныя і «леапардавыя». Пэўна, тутэйшая парода такая! Не прамінулі, вядома, і гасцінных сувенірных крам. Набыла сабе вялікі, падкрэслена ўсходні, бранзалет.

Пабываць у старым горадзе і не пабачыць Палац Шырваншахаў — сабе не дарэш. Набываем квіткі ў вясёлай касіркі — і рушым па невялікіх (як падаецца, для палаца нават вельмі кампактных) пакоях, аглядаем рэчы ўсходніх уладароў. Трон, зброя, кубкі, мазаіка, вітражы. Усё так густоўна і мудра зроблена… А вось і мячэць з мужчынскай ды жаночай заламі. І нават лазні захаваліся даволі добра! А напрыканцы нашай экскурсіі адпачываем у цені абаяльнага дрэўца, што так буйна цвіце сярод каменю палацаў…

На кантрасце адкрылі для сябе ў той жа дзень і месца, дзе «тусуецца» азербайджанская моладзь, — Плошчу Фантанаў. Там нават ёсць помнік дзёрзкай, сімпатычнай дзяўчыне ў топіку з аголеным пупком ды завужаных штанах. Вось такі сімвал разняволенасці! Там жа месціцца і вялікае «*Hard rock cafe*» са смачным півам і закускамі, стыльным інтэр'ерам. Афіцыянт, які нас абслугоўвае, бясклапотна пытаецца, адкуль мы. Пачуўшы адказ, выдае сапраўдны фантан эмоцый:

— Мінск?! Дык я ж там вучуся! Такі прыгожы, цікавы, вялікі горад! Я там сябе родным адчуваю! На жаль, зараз вымушаны быў узяць акадэмку, але абавязкова вярнуся!

Усцешаныя і сытыя, вяртаемся ў гатэль, закупіўшыся па дарозе садавінай, рахат-лукумам, гранатавым віном. І гэта цудоўная рэч, я вам скажу! Моцнае, церпкае, з выразным саладкавата-горкім смакам. Уключаем у нумары тэлевізар і знаходзім папулярны мульт пра смешнага рыжага ката — на азербайджанскай мове, вядома. Па памяці перакладаем рэплікі Гарфілда — так што вось такі імправізаваны ўрок мовы!

За пяць дзён стараліся атрымаць эмоцый па максімуме. Ногі часам балелі, у галаву пякло — ды што рабіць! Нашмат больш прыемных адкрыццяў было! Па абавязковай праграме, якую супольна складалі перад палётам, — Музей дывана. Як жа не даведацца пра гісторыю сакральных узораў, якія цяпер нават сучасныя дызайнеры ў ювелірных упрыгажэннях выкарыстоўваюць! Сам будынак музея — як вялізны скручаны пярэсты дыван. Падрабязна прадстаўлены ў экспазіцыях усе віды азербайджанскіх дываноў па рэгіёнах, тэхналогія вырабу ад старажытнасці і да нашага часу. Сядзяць перад наведвальнікамі працавітыя дзяўчаты ды ткуць дываны. Замежнікі на тэлефон відэа здымаюць… Дзяніс жартаўліва заўважае: «Гэта не мядзведзя забіць. Тут цярпенне трэба!» Цяжка не пагадзіцца, жаночая доля — не цукар. Затое якое хараство! На апошнім паверсе музея — сучасныя дываны. Партрэтныя, пейзажныя, нават сюррэалістычныя. Шкада, што з-за боязі перагрузу багажу дыван гэтым разам не набылі. Мо наступны абавязкова?

Уражвае і Музей літаратуры. І тут усё не маштабамі, раскошай, а менавіта, кажучы на беларускі лад, шляхетнасцю, адукаванасцю супрацоўнікаў. Даведаўшыся, што я працую ў літаратурным часопісе, экскурсавод размаўляе на роўных, шчыра цікавіцца гісторыяй беларускай літаратуры. І захаплянльна распавядае пра Фізулі, Нізамі, Вагіфа, Мікаіла Мушвіка, Джаліла Мамедкулідзэ, Джафара Джаббарлы… Пра цяжкі лёс занадта прагрэсіўнага для свайго часу Насімі, з якога жыццём знялі скуру. Пра пісьменніцу энцыклапедычных ведаў Натаван, знаёмую з Аляксандрам Дзюма. Пра ахвяр сталінскіх рэпрэсій… Выходзім уражаныя і задуменныя…

А шыкоўны, з беласнежнымі мінімалістычнымі інтэр'ерамі і адсутнасцю вострых вуглоў, цэнтр Гейдара Аліева! «Завісалі» там добрую палову дня, аглядаючы выстаўкі кожнага паверха. Тут і інтэрактыўны музей Аліева, і экспазіцыя традыцыйных прадметаў культуры, дзе можна паслухаць гукі азербайджанскіх музычных інструментаў, і комплекс «міні-Баку», дзе знойдуцца паменшаныя мадэлі ўсіх вядомых будынкаў. Асобна трэба казаць і пра цікавыя выстаўкі сучасных мастакоў, што ладзяцца ў цэнтры. Нам пашчасціла пазнаёміцца з творчасцю Джорджа Кандо. Творцы, які стварае ўбойны «вінегрэт» з маскульту, стэрэатыпаў сучаснага грамадства і міфатворчасці. Жорстка паказвае заганы сучаснага грамадства, малюючы зорак эстрады і кіно, п'яніц, душэўна хворых... Неадназначныя эмоцыі выклікае, але вельмі цікава!

А як жа аповед пра Азербайджан можа абысціся без апісання страў нацыянальнай кухні! Рэстаран «Сем газеляў», які гасцінна прымаў нас амаль кожны дзень вандроўкі, запоўніўся каларытнымі інтэр'ерамі і неверагоднымі далікатэсамі. Садж з баклажанамі, шашлыкі-рулеты з бараніны і курыцы, разнастайныя салаты, арбузнае варэнне… І зноў нам шанцуе з афіцыянтам. Гэта мініяцюрная дзяўчына, якая з усмешкай прызнаецца, што яе бабуля — беларуска. Зноў нам прывітанне з Радзімы!

…І плывуць гадзіны за размовамі з духмянай гарбатай. Тут, без усялякага гумару, свая «чайная гармонія», пасля якой адчуваеш сябе абноўленым і расслабленым… Накупіла і ў Беларусь колькі пачкаў, цяпер і сама, і родныя, сябры «рэлаксуюць»…

Безліч яшчэ чаго можна распавядаць, але каб зразумець сапраўдную атмасферу Баку, трэба яго пакаштаваць, памацаць, удыхнуць. Пераглядаю цяпер прывезеныя кнігі з букіністычнай крамы, ляльку ў нацыянальным строі, традыцыйныя азербайджанскія кубкі ў форме грушы (ці фігуры ўсходняй жанчыны, што больш верагодна) і думаю, што пяці дзён было мала. Не наведаліся яшчэ ў Галу, запаведнік Габустан, не схадзілі на рынак Тэзе Базар… Што ж, абавязкова вернемся. А пакуль — няхай застаецца прыемная настальгія па тых днях…

# ГАРТАЕМ КАЛЯНДАР




Слова «каляндар» паходзіць ад лацінскага *Calendarium* і літаральна азначае «пазыковая кніга». У Старажытным Рыме календаром называлі спецыяльныя кнігі, дзе пазначаліся першыя дні кожнага месяца, так званыя «календы», калі рымляне, якія мелі пазыкі, павінны былі выплачваць па іх адсоткі. З цягам часу календаром сталі называць кнігі, у якіх былі пазначаны найбольш значныя святы (такія як Вялікдзень) і іншыя падзеі.

Вытокі беларускага друкаванага календара знойдуцца ў «Пасхаліі», заключнай частцы «Малой падарожнай кніжцы» Францыска Скарыны (Вільня, каля 1522 г.). Гэта першы усходнеславянскі друкаваны царкоўна-астранамічны каляндар, у якім былі ўказаны працягласць дня і ночы для пачатку кожнага месяца і некаторых іншых дзён, дні ўваходжання сонца ў новае сузор'е, сонечнае і месячнае зацьменні, якія павінны былі адбыцца ў азначаны перыяд.

У XVI — XVIII стст. на тэрыторыі Беларусі былі распаўсюджаны календары, выдадзеныя ў Любчанскай, Слуцкай, Супрасльскай друкарнях. Яны ўтрымлівалі статыстычныя, гістарычныя, геаграфічныя і іншыя звесткі пра Беларусь. З'явіліся выдаўцы, якія спецыялізаваліся на выпуску календароў. Так, шырока былі вядомыя календары прыдворнага тэолага Радзівілаў Яна Пашакоўскага, які за 1737 — 49 гг. выдаў у Вільні 20 календароў: «Календарь политический и исторический» на 1737 — 39 гг., «Францисканский календарь» на 1740 г., «Календарь почтенных дам» на 1741 ды інш. Насуперак каляндарным традыцыям, што склаліся на той час, Ян Пашакоўскі выключыў са сваіх выданняў астралогію і прадказанні, замест якіх пачаў змяшчаць звесткі па гісторыі і культуры Беларусі, Літвы і Польшчы.

З цягам часу календары папаўняліся новымі раздзеламі, але ў цэлым іх структура заставалася падобнай.

Гістарычныя і сацыяльна-палітычныя працэсы ў краіне аказвалі ўплыў і на выпуск календароў. На хвалі русіфікацыі распачалося выданне «Виленского календаря». Падрыхтоўку арганізавалі выкладчыкі першай Віленскай гімназіі з мэтай абароны насельніцтва ад «шкодных» рускім інтарэсам польскіх календароў, увоз якіх быў забаронены.

У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі захоўваецца некалькі экзэмпляраў «Виленского календаря» (на 1884, 1887 — 1890, 1893 і некаторыя іншыя гады). Гэта дастаткова аб'ёмныя выданні (часам звыш 300 старонак), якія, акрамя непасрэдна каляндарнай часткі, куды ўваходзілі звесткі з пасхаліі і астраноміі, утрымліваюць шматлікія матэрыялы па гісторыі, геаграфіі, культуры Беларусі, а таксама разнастайную даведачную інфармацыю і парады.

Мова выдання, зразумела, была рускай, але ў праваслаўных святках назвы месяцаў прыводзіліся таксама на «старажытна-славянскай і малароскай мовах»: «апрель — цветень — квитень, июль — червецъ — липецъ».

Абавязковым раздзелам календара быў «Российский Императорский Дом», дзе падаваўся пералік дзяцей і сваякоў імператара і яго жонкі з тытуламі і датамі народзін. Асвятляліся ў выданні і такія падзеі, як «Торжество священного коронования Их Императорских величеств…», «Пребывание Их Императорских величеств в с. Беловеже» і г. д.

У выданні можна было даведацца пра ярмаркі ў мястэчках на працягу года, пра паслугі пошты і тэлеграфа, атрымаць парады наконт першай дапамогі да прыбыцця лекара, па асабістай гігіене. Карысная інфармацыя для гаспадароў змяшчалася ў садоўніцкім і ветэрынарным аддзелах.

Асабліва цікавыя артыкулы пра гісторыю краю, што падаюцца ў дастаткова адвольнай манеры. Часам да календароў дадаваліся ўстаўныя ілюстрацыі з выявамі знакамітых асоб, геаграфічных аб'ектаў або на рэлігійную тэматыку.

З 1910 па 1914 гг. газета «Наша ніва» ў Вільні на беларускай мове выдавала «Беларускі каляндар». Друкавалі кірыліцай і лацінкай. З асобнікамі гэтага выдання таксама могуць азнаёміцца чытачы бібліятэкі.

Невялікае па аб'еме выданне (48 — 106 старонак) было дастаткова інфарматыўным і цікавым. Акрамя непасрэдна каляндарнай часткі, у ім былі прадстаўлены некаторыя раздзелы, уласцівыя «Виленскому календарю»: «Российский Императорский дом», «Статыстычны аддзел», звесткі пра кірмашы, практычныя парады, змяшчалася таксама і шмат самабытных матэрыялаў, якія надавалі пэўны нацыянальны каларыт. Так, у раздзеле «Гаспадарскі календар» даваліся парады па вядзенні сельскай гаспадаркі на кожны месяц, якія часам ілюстраваліся народнымі прыказкамі: «Якім зярном пасееш, такі колас вырасце», «Да Петра высушыш траву і пад кустом, а на Пятрэ ня сохне і на кусце». Апісваліся народныя традыцыі, звязаныя з такімі святамі, як Вялікдзень, купалле, зажынкі, дажынкі ды інш. Друкаваліся забаўляльныя матэрыялы: прыпеўкі, жарты, загадкі.

Паколькі «Беларускі каляндар» выдаваўся грамадска-палітычнай газетай «Наша ніва», не заставалася па-за ўвагай і пытанне нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Парады і забаўляльная інфармацыя перамяжоўваліся выказваннямі кшталту: «Помні, што самы нягодны паступак — здрада. Не плям здрадай імя Беларуса», «Не калеч роднай мовы чужымі словамі, бо скалечыш душу подлымі дзеламі», «Не цурайцеся сваёй роднай беларускай мовы! Дзе толькі можна гукайце па беларуску!». Значнае месца ў выданні адводзілася творам мастацкай літаратуры. Тут друкаваліся Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Цішка Гартны, Канстанцыя Буйло ды іншыя аўтары.

З пункту гледжання мастацкага выканання «Беларускі каляндар» выглядае даволі сціпла: мяккая вокладка, адсутнасць ілюстрацыйнага матэрыялу, але цікавымі для сённяшніх чытачоў, напэўна, будуць аркушы рэкламнага характару, якія ўпляталіся ў пачатку і напрыканцы выдання. Упрыгожаныя графічнымі малюнкамі, рамкамі і віньеткамі, яны пераносяць у мінулае стагоддзе, распавядаюць, якія тавары і паслугі прапаноўваліся больш за 100 год таму: «Гуртоўные склады сьвежых заграничных селядцоў», «Працоўня артыстычных Вітражоў Ф. Бялковскі», «Найлепшае гліцэрынавае мыло» і інш.

Можна доўга гартаць гэтыя выданні, знаходзіць новыя цікавыя дробязі. Знаёмства з календарамі мінулага — своеасаблівы экскурс у гісторыю краіны і ў той жа час магчымасць далучыцца да жыцця асобнага чалавека з яго паўсядзённымі справамі і турботамі.

**Вольга ГУБАНАВА**

# З часоў Пятра Вялікага

**Што ўяўляе сучасны чалавек, калі чуе слова «каляндар»? Хутчэй за ўсё, насценны, кішэнны альбо садаводчы, у тэлефоне або камп'ютары. Але так было не заўсёды.**

Паспрабуем перамясціцца на 300 гадоў таму: у XVIII стагоддзі ў Расіі з'явіліся свецкія календары, якія карысталіся вялікай папулярнасцю, пачынаючы з так званага «Брюсова календаря» (1709 год). Сваю назву каляндар атрымаў ад імя генерала Якава Вілімовіча Бруса. У юнацтве адзін з пацешных Пятра, а потым заўсёдны спадарожнік цара ў паходах і некаторых падарожжах Брус лічыўся адным з самых адукаваных паплечнікаў Пятра І. Перакладчык, аўтар некалькіх навуковых трактатаў, Якаў Вілімавіч адыграў прыкметную ролю ў кніжнай справе Пятроўскага часу. Пад непасрэдным наглядам Бруса друкавалася шмат падручнікаў, якія прызначаліся для матэматыка-навігацыйнай школы, заснаванай Пятром. Надрукаваны ім каляндар выклікаў вялікую цікавасць, бо ўтрымліваў мноства карысных і забаўляльных звестак, у тым ліку па астраноміі.

Выданнні кшталту «Брусава календара» аказаліся вельмі запатрабаванымі. Яны былі своеасаблівым «інфармацыйным» выданнем, іх можна разглядаць як разнавіднасць перыядычных выданняў. У календарах Пятроўскага часу, як правіла, змяшчаліся розныя звесткі: кароткая храналогія падзей, назвы планет і знакі задыяку; у кожным месяцы прапаноўваліся святыя тэксты для чытання і даты царкоўных святаў; фазы месяца, прадказанні надвор'я; друкаваліся парады народнай медыцыны: напрыклад, быў пазначаны час, калі лепш «пускаць кроў». У пытанні пра «кровапусканне» календары займалі перадавую пазіцыю, бо змагаліся з забабонамі, што пускаць кроў і прымаць лекі трэба ў вызначаныя дні месяца, якія спрыяюць гэтым аперацыям. У процівагу гэтаму пункту гледжання календары сцвярджалі, што рабіць кровапусканне і прымаць лекі трэба тады, калі ў гэтым ёсць патрэба. Асаблівая ўвага ў календарах надавалася «Прогностикону», у дадзеным раздзеле друкаваліся «прадказанні» пра падзеі, якія маюць адбыцца ў каляндарным годзе.

У фондах аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца адно з такіх выданняў — «Календарь или месяцослов на лето от рождества господа нашего Иисуса Христа, 1722». Выдадзены 15 снежня 1721 года ў Санкт-Пецярбургу. У скураным пераплёце зялёнага колеру з залатым цісненнем. На тытульным лісце гравюра — віньетка з выявай Нявы і Петрапаўлаўскай крэпасці.

На першых старонках календара змешчаны скарачэнні і знакі, грэчаскія і рымскія назвы планет і багоў, назвы знакаў задыяку і адпаведны ім месяц. Таксама надрукаваныя звесткі пра тое, якім лічыцца год ад той ці іншай падзеі: напрыклад, 1722 год ад нараджэння Хрыстова з'яўляецца 7230-м годам ад стварэння свету,


КАЛЕНДАРЬ
или
МѢСЯЦОСЛОВЪ
На лѣто отъ рождества
Господа нашего Іисуса
Хріста, 1722.
указующіи затмѣнія солнечная, мѣсячная рожденія, и полныи мѣсяцъ съ четвертми.
Также время солнечнаго восхожденія и захожденія. долгоденствіе и долгонощіе на всякій день.
учіненный по мерідіану, и шірінѣ царствующаго санктъпітербурха.

въ санктъпітербургской Тіпографіи, Лѣта Господня, 1721. Декемврія въ 15 день.


МАРТЪ имать 31 день.

4988-м ад Ноева патопу, 7-м годам ад нараджэння ўнука Пятра Вялікага, 282-м годам ад пачатку кнігадрукавання, 342-м ад вынаходніцтва пораху.

Яшчэ адна асаблівасць тагачасных календароў — наяўнасць асобных старонак з прастаўленымі датамі месяца і пустымі палямі, дзе ўладальнік рабіў запісы, — вёў своеасаблівы дзённік: апісанне фактаў асабістага жыцця, гаспадарчыя нататкі, згадкі пра падзеі грамадскага жыцця. Асаблівую каштоўнасць календару з фондаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа надаюць запісы, зробленыя былым уладальнікам Міхаілам Іванавічам Спіцыным (яго імя запісана ў пачатку выдання).

Запісы ў месяцаслове пададзеныя на так званых «нотатных» лістах і размешчаны насупраць прастаўленых дат месяца, а паколькі каляндар вёўся не адзін год і нават не адно дзесяцігоддзе, то ў кожным запісе прастаўлены год, адпаведны апісанай падзеі. Для запісаў у месяцаслове адведзена па дзве старонкі на месяц, на кожнай з якіх прастаўленыя ўсе даты месяца.

У календары маюцца шматлікія запісы на кожны месяц, некаторыя з іх тычацца важных падзей сям'і Спіцыных: аб прыняцці праваслаўнай веры (29 сакавіка «*1852 г. Анна Карл. Спицына приняла православ. веру*»); пра даты нараджэння і смерці членаў сям'і (3 траўня «*сего числа 1827 г. въ 2 часа пополудни родилась Елена Михайловна Спицына…*», (13 жніўня «*1845. Умеръ любезный сынъ Алексей въ 10 часовъ утромъ*»); пра знамянальныя падзеі (16 жніўня «сего числа 1824 г. получилъ Орден Св. Анны 3 степени»).

Уладальнік таксама зафіксаваў значныя гістарычныя падзеі, у прыватнасці, паўстанне «дзекабрыстаў» (14 снежня «*было большое въ С.П. […]ніе и стреляли въ бунтовщиковъ изъ Пушекъ Картечью. 1825 г.*») Згадвае М. І. Спіцын і пра з'явы надвор'я (7 лістапада «*было большое наводненіе въ Стпетербурге въ 1824 г.*») і інш.

Надрукаваны ў першай чвэрці XVIII стагоддзя, каляндар заставаўся запатрабаваным нават у XIX стагоддзі. Сёння ён з'яўляецца кніжным помнікам пятроўскага часу. Запісы пра жыццё і інтарэсы былога ўладальніка да гэтага часу прыцягваюць чытачоў.

**Валерыя НАВУМЕНКА**

# Для «аддаленага» чытача

Акадэмік Андрэй Сахараў яшчэ ў 1974 годзе ў сваёй працы «Свет праз паўстагоддзя» пісаў: «У перспектыве, можа быць, пазней, чым праз 50 гадоў, я прадугледжваю стварэнне сусветнай інфармацыйнай сістэмы, якая зробіць даступным для кожнага ў любую хвіліну змест любой кнігі, апублікаванай калі-небудзь і дзе-небудзь, змест любога артыкула, атрыманне любой даведкі…». У інфармацыйным грамадстве ўзніклі новыя формы культурнай сферы (медыягалерэі, лічбавыя інсталяцыі, анлайн-музеі), якія змяняюць працэс камунікацыі, спосабы доступу да інфармацыі.

У сучаснай бібліятэчнай практыцы вядомы розныя формы прадастаўлення інфармацыі ў рэжыме аддаленага доступу: пошук у электронных каталогах, віртуальнае даведачна-бібліяграфічнае абслугоўванне, рассылка інфармацыі. Мультымедыя, электронныя выстаўкі дазваляюць раскрыць змест фонду кніжніцы.

Напрыклад, электронны інфармацыйны рэсурс «Кніга Беларусі XIV — XVIII стст.» ствараўся з мэтай папулярызацыі кніжнай спадчыны Беларусі. Інфармацыйны рэсурс прадставілі на II Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Бібліятэкі ў інфармацыйным грамадстве: зберажэнне традыцый і развіццё новых тэхналогій» у Беларускай сельскагаспадарчай бібліятэцы імя І. С. Лупінovіча НАН Беларусі. Нацыянальная бібліятэка Беларусі алічбоўвае свой фонд з 2004 года. Ужо назапасіўся прадстаўнічы масіў — амаль 450 тысяч паўнатэкставых дакументаў, адзначыў загадчык аддзела фарміравання электроннай бібліятэкі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Віктар Пшыбытка. У складзе электроннай бібліятэкі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі вылучана 17 тэматычных паўнатэкставых калекцый, сярод якіх найбольш каштоўныя: «Інкунабулы», «*Radziviliana*», «Кніга Беларусі XVI — XVIII стст.», «Скарыніяна». На жаль, пазнаёміцца з імі можна толькі ў будынку НББ.

Інфармацыйная структура электроннага рэсурсу «Кніга Беларусі XIV — XVIII стст.» арганізавана такім чынам, каб было зручна карыстацца як навічкам, так і кнігазнаўцам-прафесіяналам. Кожны запіс мае апісанне, дзе можна знайсці аўтара, прадметную рубрыку, дату, выдаўца і г. д. Многія з палёў — пошукавыя фільтры, таму магчыма сартаваць дакументы па даце, месцы выдання. Выкарыстаны і сэрвіс Google-карты, дзе дакументы пазначаны па месцы выдання.

Нацыянальная бібліятэка Беларусі абслугоўвае 157 тысяч індывідуальных карыстальнікаў. З 2010 па 2015 год колькасць аддаленых карыстальнікаў павялічылася ў 1,6 разу і на пачатак 2016 года склала 47%. 20,3% складаюць тыя, хто жыве за межамі краіны і карыстаецца паслугамі бібліятэкі анлайн.

Працаваць у аддаленым рэжыме з базамі даных прапануюць карыстальнікам Фундаментальная бібліятэка



БДУ і Навуковая бібліятэка БНТУ. На 01.01.2016 агульны аб'ём баз даных, створаных публічнымі бібліятэкамі, перавышае 23 млн запісаў. У 2011 годзе ўкаранёны новы від інфармацыйнага абслугоўвання — прамое падключэнне навукова-даследчых устаноў НАН Беларусі да замежных інфармацыйных рэсурсаў. Гэтай паслугай карыстаюцца 32 арганізацыі НАН Беларусі.

Найбуйнейшы навуковы рэсурс — eLibrary.ru — электронная бібліятэка, што ўключае дакументы, якія дазваляюць у аўтаматызаваным рэжыме ацэньваць спісы публікацый па тэматыцы, годзе, часопісе, дзе была апублікавана работа, суаўтарах, арганізацыях, тыпу публікацый і г. д. У 2012 годзе паміж навуковай электроннай бібліятэкай *eLibrary.ru* (генеральны дырэктар Генадзь Яроменка) і НАН Беларусі (дырэктар ЦНБ НАН Беларусі Наталля Бярозкіна) падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве па адлюстраванні навуковых выданняў Рэспубліке Беларусь у БД Расійскі індэкс навуковага цытавання (РІНЦ). У 2014 годзе заключаны дагавор аб супрацоўніцтве з ААТ «Навуковая электронная бібліятэка» наконт размяшчэння 5 часопісаў БНТУ на платформе *eLibrary*. Рыхтуюць выпускі часопісаў у РІНЦ супрацоўнікі Навуковай бібліятэкі БНТУ. Складаюць рэйтынгі арганізацый па колькасці публікацый, колькасці спасылак на артыкулы, індэксе Хірша. Найбольш аўтарытэтныя базы даных па навуковым цытаванні — *Web of Science, Scopus*, Расійскі індэкс навуковага цытавання. Доступ да гэтых баз даных прадастаўляюць ЦНБ НАН Беларусі, НБ БНТУ, ФБ БДУ, БелСХБ, бібліятэкі Віцебскага, Гродзенскага і Гомельскага медыцынскіх універсітэтаў і інш.

«Аднойчы я пацікавілася досведам бібліятэкі кангрэса ЗША, знайшла ў іх карысную сістэму — інтэрнэт-рассылку па вызначанай тэматыцы, — дзеліцца Наталля Рэдзькіна, доктар педагагічных навук, прафесар, намеснік дырэктара па навуковай рабоце Дзяржаўнай навукова-тэхнічнай бібліятэкі Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук. — Гэтыя тэхналогіі ўкаранілі і ў сябе — *e-mail*-падпіску па групах рассылак: пачынаючы з навін бібліятэкі, заканчваючы новымі паступленнямі кніг. Выкарыстана платформа *SendPulse*, якая дазваляе рабіць push-паведамленні, *e-mail*-рассылкі, *sms* і г. д.». Навукова-тэхнічная бібліятэка Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук мае нават канал на *YouTube*. На сайце гэтай бібліятэкі генерыруюцца асобныя старонкі, з дапамогай якіх можна зрабіць навігацыю па навуковых рэсурсах у адкрытым доступе, у тым ліку старонкі, што тычацца замежных рэсурсаў. Асабісты кабінет карыстальніка дазваляе праглядзець фармуляр, прааналізаваць пошукавыя заказы. Цяпер заказы захоўваюцца — больш плёну для наступнай працы.

Абсалютна новыя магчымасці адкрые стварэнне інавацыйнай, тэхналагічна сучаснай, функцыянальнай платформы. Так лічыць вядучы інжынер-праграміст аддзела аўтаматызацыі Рэспубліканскай навукова-тэхнічнай бібліятэкі Аляксандр Кулішэнка. Яго праект «Карпаратыўнае "воблака" РНТБ на базе *OwnCloud*» прадугледжвае класіфікацыю воблачных сэрвісаў. *OwnCloud* — свабодны, адкрыты і кросплатформенны вэб-дадатак.

У 2015 годзе быў праведзены цікавы эксперымент: на воблачную платформу былі перанесены серверная частка і база даных сістэмы аўтаматызацыі ЦНБ НАН Беларусі. Перанос зрабілі на платформу Нацыянальнага цэнтра грыд-тэхналогій. Зараз воблачная платформа выкарыстоўваецца ў якасці рэзервовага сервера, а таксама для дадатковага рэзервовага капіравання і захоўвання базы даных электроннага каталога ЦНБ НАН Беларусі.

У нашай краіне ў адпаведнасці з указам прэзідэнта створана адзіная рэспубліканская сетка перадачы даных (АРСПД) і СТАА «Беларускія воблачныя тэхналогіі» (на сёння асноўны пастаўшчык воблачных паслуг для дзяржаўных органаў, арганізацый і навукова-адукацыйных устаноў краіны). Воблачныя тэхналогіі, лічаць спецыялісты, неабходны для вырашэння праблем па абнаўленні і падтрымцы бібліятэчных праграмна-тэхнічных комплексаў. Размяшчэнне бібліятэчных сістэм і інфармацыйных сэрвісаў на воблачных платформах павысіць функцыянальнасць і надзейнасць сеткавай інфраструктуры, зменшыць эксплуатацыйныя выдаткі за кошт кансалідацыі абсталявання.

**Наталля СВЯТЛОВА**

# На Алеі пісьменства

## Як шануюць на Ганцаўшчыне творцаў-землякоў

Як не захапляцца мясцінамі, дзе нарадзіўся і вырас?! Непаўторным краявідам Ганцаўшчыны прысвечана нямала вершаў і празаічных твораў. Узгадваю адну з апошніх сустрэч з паэтам Іванам Лагвіновічам, які большую частку жыцця правёў удалечыні ад радзімы, але ў сталым узросце вярнуўся дамоў. Жыў у Баранавічах. Іван Піліпавіч распавядаў, што, калі прыязджаў на Ганцаўшчыну, дыхалася лягчэй.

Землякі ганарацца, памятаюць і любяць творчасць Івана Лагвіновіча. На яго радзіме, у вёсцы Малькавічы, дзе паэт знайшоў свой апошні спачын, у бібліятэцы-музеі створана экспазіцыя, прысвечаная жыццю і творчасці літаратара. Тут прадстаўлены рукапісы, асабістыя рэчы і хатняя бібліятэка паэта. Да 75-годдзя творцы ў Малькавіцкай бібліятэцы-музеі адбылася вечарына, сабраліся сябры і калегі па пяру, творчая інтэлігенцыя.

У красавіку ўшаноўвалі памяць паэта Міхася Рудкоўскага, які нарадзіўся ў вёсцы Востраў і прысвяціў роднаму краю добрую нізку вершаў. У дзень нараджэння літаратара цэнтральная раённая бібліятэка імя В. Праскурава арганізавала вечар памяці. Святочная праграма распачалася на радзіме літаратара — у Востраве. У Востраўскай сярэдняй школе, дзе працуе музей Міхася Рудкоўскага, прайшла экскурсія. Гідамі сталі вучні школы. Імпрэза працягнулася ў гарадскім Доме культуры.

У жніўні святкавалі дзень нараджэння пісьменніка Віктара Гардзея на яго радзіме — вёсцы Вялікія Круговічы. У тутэйшай бібліятэцы працуе літаратурная экспазіцыя, прысвечаная земляку. Да знамянальнай даты цэнтральная раённая бібліятэка імя В. Праскурава стварыла тэматычнае дасье «Віктар Гардзей» са шматлікімі фотаздымкамі з архіва пісьменніка, яго рукапісамі, публікацыямі ў прэсе. Выдалі аднайменны аўтабіяграфічны зборнік. Пачынаў сваю прафесійную дзейнасць Віктар Гардзей у раённай газеце «Савецкае Палессе», рэдактарам якой быў яшчэ адзін добра вядомы пісьменнік і нарысіст Васіль Праскураў, 90-гадовы юбілей якога адзначылі ў жніўні. Адна з экспазіцый краязнаўча-літаратурнага пакоя «Ганцаўшчына літаратурная» цэнтральнай раённай бібліятэкі прысвечана Васілю Праскураву: граматы, рукапісы, фотаздымкі, асобнікі і кнігі з хатняй бібліятэкі з аўтографамі класікаў беларускай літаратуры Ніла Гілевіча і Аркадзя Куляшова. 25 жніўня, у дзень нараджэння пісьменніка, бібліятэка правяла літаратурную вечарыну «А жыццё чалавека — тая ж самая песня...».

У невялічкай вёсцы Гута нарадзіліся Уладзімір Марук і Іван Кірэйчык. На месцы хутара, дзе жыў Іван Кірэйчык, закладзены памятны знак, а на роднай хаце Уладзіміра Марука ўсталявана мемарыяльная дошка. Вёска Гута — адна з самых маленькіх вёсачак у раёне. Але ўшанаваць памяць знакамітых землякоў прыйшлі шмат аднавяскоўцаў.

Персанальныя тэматычныя дасье, аўтабіяграфічныя зборнікі, экспазіцыі літаратурнага пакоя ў цэнтральнай раённай бібліятэцы імя В. Праскурава зберагаюць памяць пра творцаў. Летась аддзел бібліятэчнага маркетынгу выдаў дакументальны зборнік «Я з тых, хто не вякуе», пад вокладкай якога сабраны ўспаміны сяброў, калег па пяру, родных Уладзіміра Марука.

Цяпер у бібліятэках раёна ладзяцца юбілейныя мерапрыемствы, прысвечаныя яшчэ аднаму земляку — пісьменніку Алесю Каско. Алесь Канстанцінавіч часты госць нашых імпрэз, цікавы чалавек, які піша і для дзяцей. Змястоўная экспазіцыя, прысвечаная яго творчасці, прадстаўлена ў Чудзінскай сельскай бібліятэцы і літаратурным пакоі «Ганцаўшчына літаратурная».

На Ганцаўшчыне нарадзіўся Алесь Кажадуб. Хоць жыве ў Маскве, але сувязі з Беларуссю не губляе. Ганцаўшчыне пісьменнік прысвяціў шэраг твораў, сярод якіх першая яго кніга прозы «Гарадок». Жыццю і творчасці літаратара прысвечаны адзін з раздзелаў краязнаўча-літаратурнага пакоя «Ганцаўшчына літаратурная».

Імёны літаратараў-землякоў увекавечаны ў Ганцавічах на Алеі пісьменства.

**Таццяна МАЛЯЎКА**

# Літаратурныя зазімкі

## Вершы Багдановіча чыталі ля сцен Лідскага замка

Лідская раённая бібліятэка імя Янкі Купалы прадставіла літаратурны праект «Чытаем разам Багдановіча». Аматараў творчасці паэта запрасілі далучыцца да чытання твораў Багдановіча і даслаць сваё відэа на фоне гістарычных мясцін нашага горада. Адгукнуліся як дарослыя, так і дзеці: прамаўлялі багдановічаўскія вершы ля сцен Лідскага замка і ў доміку-музеі Валянціна Таўлая.

Вынікі падвялі на літаратурна-музычных зазімках «І зорка гарыць, і не вяне вянок». Запрасілі ўдзельнікаў літаратурнага праекта, гарадзенскіх і мясцовых літаратараў. Чытальнікі вершаў паэта былі адзначаны дыпломамі і падзякамі адміністрацыі бібліятэкі. Яшчэ раз прагучалі на зазімках несмяротныя творы беларускага класіка: «Зімой», «Маёвая песня», «Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі», «Я хацеў бы спаткацца з вамі…» і іншыя. Настрой стварыў лідскі бард Сяргей Чарняк, які выканаў ужо знаёмыя песні-рамансы і ўпершыню праспяваў сваю песню на словы паэта «Плакала лета, зямлю пакідаючы…», а «Зорку Венеру» падпявалі ўсе ўдзельнікі імпрэзы. Словы-прывітанні і вершы ў гонар зоркі беларускай літаратуры прамовілі гарадзенскія паэты і пісьменнікі Валянцін Дубатоўка, Юрка Голуб, Рычард Бялячыц.

На кніжнай выстаўцы «Нязгаснаю зоркай ты ў небе Радзімы навекі» можна было пазнаёміцца з выданнямі Максіма Багдановіча, рэпрадукцыямі мастакоў, выказваннямі беларускіх пісьменнікаў.

**Тэрэза ЧАЙКО**

# Мастацкія аргументы

— У нас адбываецца разрыў пакаленняў, — адзначыў скульптар Канстанцін Селіханаў. — Народных мастакоў больш не становіцца. Каб атрымаць званне, чамусьці недастаткова зрабіць унікальны твор, трэба прайсці сістэму заахвочванняў. Калі гэта здараецца, мастаку ўжо за шэсцьдзясят год. Ну, калі б не было годных мастакоў… Але яны ёсць. Чаму Зоя Літвінава цяпер не народны мастак? Чаму Анатоль Кузняцоў, Леанід Хобатаў, Сяргей Грыневіч і многія іншыя не заслужаныя мастакі? Ёсць адчуванне, што нам трэба адмовіцца ад такога механізму ўзнагароджання. Але ж пакуль існуе такі ўклад, ёсць прапанова: на вылучэнне ўзнагарод трэба хоць бы павялічыць колькасць намінантаў.



Фота Кастуся Дробава.

Падчас правядзення з'езда.

Многія выступоўцы адзначылі, што ў саюз трэба прыцягваць больш маладых творцаў, якія здольныя пашыраць межы мастацтва, акцэнтаваць увагу на праблемах, светаўспрыманні свайго пакалення. Скульптар Іван Арцімовіч адзначыў, што маладыя супольнасці могуць дастаткова многа. Студэнты Акадэміі мастацтваў сёння ствараюць абсалютна ўнікальныя рэчы, але ж калі выходзяць за межы навучальнай установы, то ў іх няма ні майстэрні, ні пэўных кантактаў, і дзяржаве трэба падумаць пра гэта.

Старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Беларускага саюза мастакоў Ларыса Зуева сказала:

— У нас многа мастакоў, якія не маюць належнай адукацыі, але ж творамі, мастацкімі развагамі даказалі годнасць. Такіх маладых мастакоў трэба падтрымаць. Можа, зняць адукацыйны крытэрый пры ўдзеле ў розных выставачных праектах. Таксама трэба перастаць выстаўляцца толькі на сваіх месцах. Чаму Віцебск не ведае мастацтва Гомельшчыны і наадварот?

Ларыса Зуева закранула праблему: у краіне няма сучаснага выдання, якое б змяшчала звесткі пра дзейнасць сяброў саюза, напрыклад, такога, які сёлета прэзентаваў Беларускі саюз дызайнераў. Ёсць над чым працаваць такой вялікай арганізацыі: інфармацыя пра ўдзельнікаў павінна быць сабраная ў адзіны збор, каб людзі ведалі і ганарыліся творцамі.

Мастак Уладзімір Уродніч нагадаў: пад нашымі нагамі зямля бацькоў і дзядоў. Трэба ўзнаўляць, папулярызаваць традыцыі, якія нам пакінулі, і падумаць, што ў такім выпадку мы пакінем нашчадкам.

Але і ў мастакоў свае традыцыі. Падчас выбараў старшыні Беларускага саюза мастакоў творцы практычна аднагалосна прагаласавалі за Рыгора Сітніцу (85 працэнтаў галасоў), такім чынам перавыбраўшы старшыню на другі тэрмін праўлення. Акрамя Рыгора Сітніцы, кандыдатам на пасаду старшыні Саюза мастакоў быў скульптар Аляксандр Шапо (за яго аддалі галасы 15 працэнтаў удзельнікаў з'езда).

XXII з'езд Беларускага саюза мастакоў паказаў, што ў мастацкім асяроддзі застаюцца праблемы, якія патрабуюць увагі і дэталёвага разгляду.

**Вікторыя АСКЕРА**

**Заканчэнне. Пачатак у № 42.**

## Ці актуальна быць сябрам Беларускага саюза мастакоў?

**Анатоль Концуб, жывапісец:**

— Саюз мастакоў творцам неабходны. Тут мы вырашаем праблемы, гаворым пра творчасць, праекты, пленэры. Саюз — той кавалачак нашай тэрыторыі, дзе, павылязаўшы са сваіх майстэрняў, дзелімся думкамі і планамі на будучыню. Гэта тое, што мастацтва аб'ядноўвае і ўзмацняе. У саюзе могуць не вырашыць усе пытанні творчасці, але пытанні жыццёвыя, бытавыя вырашаць дапамагаюць.

**Сяргей Гумілеўскі, скульптар:**

— Калі праводзяць рэспубліканскія выстаўкі, Саюз мастакоў выконвае вялікую справу для нас: дазваляе атрымаць досвед. Увогуле ў краіне павінна існаваць арганізацыйная структура, якая будзе кантраляваць працэсы мастацтва. Канечне, кожны мастак існуе сам па сабе, але ж гэта тая творчая ніша, што дазваляе зразумець: ты не адзін і адчуваеш сябе абароненым. Саюз не дае гарантыі, што пасля ўступлення ты будзеш ляпіць альбо маляваць, але ён арганізоўвае працэс, прапаноўвае развіццё.

**Наталля Яўгелеўская, кераміст:**

— Тыя, хто думаюць, што зараз так лёгка быць мастаком-адзіночкай, памыляюцца. Напрыклад, арэнда памяшканняў каштуе вялікіх грошай, а саюз у гэтым кірунку выступае спонсарам мастака. Таксама ён дае супрацоўнікаў, якія дапамагаюць у адкрыцці мастацкага праекта. Саюз дапамагае стварыць баланс у сістэме выставак і аб'ядноўвае мастакоў. Наш саюз — сапраўдная сям'я, вялікая супольнасць аднадумцаў, дзе мы абмяркоўваем праблемы і знаходзім адказы разам. Сам-насам не справішся.

# «НОВАЯ» МІФАЛОГІЯ,

## альбо як Надзеі Бука дапамагла выцінанка

Паўсядзённае жыццё ўцягвае чалавека ў мітуслівы коласварот падзей, здараецца, не мінуць сацыяльнай замкнёнасці і няўважлівасці да чароўных з'яў. Бывае, людзям патрэбны моцныя эмоцыі, узварушэнне, каб выйсці за межы звычайнага ўкладу і апынуцца на больш свабоднай, энергічнай хвалі будняў. Абаяльная мастачка Надзея Бука ў творчасці абапіраецца на тэмы, здольныя нагадаць падзеі, з якімі звязаны нашы шчаслівыя ўспаміны. Такім чынам аўтар вызваляе гледача ад своеасаблівага гіпнозу, які ў нейкі момант пазбавіў яго ад радасных пачуццяў. У галерэі *TUT.BY* працуе выстаўка Надзеі Бука «Адваротны бок».

Творчая скарбонка Надзеі Бука поўніцца сюжэтамі, дзе ёсць месца каханню, фантастыцы, казкам і нават элементам сусветнага мастацтва. Творца акцэнтуе ўвагу на ўзаемаадносінах і ўнутранай свабодзе чалавека, не дае героям згубіць рамантычнасці, апантанасці. Мастацтвазнаўцы творчасць Надзеі Букі называюць міфалагічнай, толькі тут не трэба думаць пра знакамітых грэчаскіх герояў — мастачка займаецца стварэннем, калі можна так казаць, «новых» міфалагічных легенд. Яна ўважліва ставіцца да падбору персанажаў: яе натхняюць то рэальныя людзі, падзеі, то абсалютна выдуманыя.

— Многія сюжэты, як і персанажы, узятыя з жыцця, — адзначае Надзея. — Да прыкладу, работа «Адносіны» пра кожнага з нас. Любы чалавек у пэўны момант закрываўся ў ракавінцы і не хацеў з яе вылазіць. Гэтак жа і мы апыналіся на месцы тых, хто спрабаваў дастаць каханага (каханую) альбо сябра з замкнёнага стану. У той жа рабоце «Сам-насам з сабой» акцэнт пастаўлены на чалавечы маскі. Мы прымяраем іх для розных роляў. Хтосьці выкарыстоўвае маску ў офісе, хтосьці апранае на спатканне, і толькі калі застаёмся без нікога побач, напрыклад, у ванне, здымаем іх. Але ёсць і выдуманыя персанажы, такія як Піглас. Гэта вока з крыламі, якое прысутнічае на многіх маіх «буцінанках». Ён казачная істота (я напісала пра яго кнігу), якая сілкуецца драўлянымі прышчэпкамі і размаўляе бурбалкамі.

Казачная атмасфера твораў гарманічна сумяшчаецца з сур'ёзнасцю. Мастачка не адмаўляецца ад філасофскіх разваг, наадварот — запрашае гледача паразважаць з ёю. Некаторыя фантастычныя персанажы пераходзяць з карціны ў карціну, з'яўляецца адчуванне, што Надзея здымае пра іх серыял, дзе героі паўнавартасна пражываюць розныя падзеі жыцця.

У мастацкіх кампазіцыях Надзея Бука выкарыстоўвае нацыянальны каларыт, які, дарэчы, паспрыяў фарміраванню яе індывідуальнага почырку ў творчасці.

— Асновай мноства маіх твораў стала беларуская выцінанка, — расказвае мастачка. — Ёй навучылася ў Маладзечне, у Музычным каледжы імя Міхала Клеафаса Агінскага. Там у мяне быў выдатны настаўнік Вікторыя Чарвонцава, якая адраджае гэты від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў Беларусі. Калі я пачынала вучыцца, мае выцінанкі вельмі адрозніваліся ад работ іншых навучэнцаў: у іх не было сіметрыі, хоць я таксама выкарыстоўвала манікюрныя нажніцы і суцэльны ліст паперы. Мае кампазіцыі складаліся са шматлікіх кампанентаў і з кожным годам усё менш нагадвалі класічную выцінанку. Так з'явіўся ўласны кірунак — «буцінанка». Ад прозвішча. Да сённяшняга дня я працягваю выразаць беларускія матывы. Люблю адлюстроўваць мінскую архітэктуру, рабіць адсылкі да Шагала, выкарыстоўваць беларускую народную стылістыку, арнамент.

Надзея Бука вельмі энергічная. Здаецца, што побач з ёй людзі падсілкоўваюцца гумарам, добрым настроем. Яе тэмперамент, харызма адчуваюцца ў творах. Мастачка бачыць у розных з'явах жыцця знакі, якія фарміруюць светаўспрыманне і любоў да асяроддзя. Натхняецца творамі знакамітых мастакоў, такіх як Сальвадор Далі, Язэп Драздовіч, Іван Хруцкі, Густаў Клімт, Рэнэ Магрыт. Тэматыка і вобразнасць гэтых аўтараў заўважная ў работах Надзеі. Аднак мастачка падкрэслівае, што ў яе ёсць асабістая муза — сям'я (муж і двое сыноў), дзе паводзінамі, учынкамі, характарамі неадночы спрыялі стварэнню новых кампазіцый. Аўтар не можа займацца мастацтвам без музыкі. Музыка дае ёй бадзёрасць.



«Уснежка».



«Вароты Мінска».

У маладым узросце Надзея Бука змагла заваяваць прызнанне публікі, стаць непадобнай ні да каго іншага. Здавалася б, яе творы маглі быць аднымі з першых «у спісе» на продаж...

— У Беларусі яшчэ не надта развіты арт-рынак. Можна сказаць, мы толькі адкрываем яго, — падкрэслівае Надзея. — Вялікую ролю тут адыгрывае прасоўванне ўласнага «я». Надзя Бука, гавораць мне, брэнд. Але я не ўпэўнена. Безумоўна, у мяне ёсць стыль, многія ім захапляюцца, але не купляюць. Кажуць, што дорага, лічаць, што 500 долараў — высокі кошт за карціну, якую ты выразаў месяц і ніколі ўжо не паўторыш. Некалькі работ у мяне купілі. Але калі б я зарабляла толькі карцінамі — галадала б *(Усміхаецца.)*. Цяпер пішу жывапіс. Яго беларусы больш разумеюць.

Надзея Бука — прыклад таго, як чалавек жыве сваёй справай і атрымлівае ад яе задавальненне. А ў такіх людзей, як правіла, усё атрымліваецца.

**Вікторыя АСКЕРА**

# «Душы чысцюткай німб…»

**Кніга «Марыя Захарэвіч. Талент, адухоўлены любоўю» прысвечана жыццю і творчасці народнай артысткі Рэспублікі Беларусь Марыі Георгіеўны Захарэвіч — адной з самых яркіх зорак нацыянальнай сцэны. Кніга ўбачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура» (серыя «Жыццё знакамітых людзей Беларусі») напярэдадні юбілею актрысы. У зборніку змешчаны ўспаміны землякоў, калег, сяброў Марыі Георгіеўны, яе інтэрв'ю, а таксама вершы, прысвечаныя ёй славутымі беларускімі паэтамі. Пра тое, як узнікла ідэя кнігі, і якім чынам удалося дасягнуць даверу з боку артысткі, якая пагадзілася на шчырасць для шырокай аўдыторыі, распавядае «ЛіМу» Дзмітрый Пятровіч, вядучы рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» (адзін з аўтараў і рэдактар кнігі):**

— Больш за сорак аўтараў узялі ўдзел у стварэнні кнігі. Ідэя належала ўкладальніку гэтага зборніка Соф'і Жыбулеўскай. Задоўга да юбілейнага для вялікай актрысы 2016 года Соф'я Антонаўна сабрала найкаштоўнейшы матэрыял, пабываўшы ў архіве Нацыянальнай бібліятэкі, у Мядзельскім музеі народнай славы (малая радзіма М. Г. Захарэвіч — вёска Навасёлкі Мядзельскага раёна Мінскай вобласці). Наведала і Маладзечна — там знаходзіцца Мінскі абласны драматычны тэатр, дзе на працягу дзевяці гадоў Марыя Георгіеўна ладзіла з акцёрамі гэтага тэатра свой знакаміты майстар-клас. Дзякуючы Соф'і Антонаўне сабраны і каштоўны фотаматэрыял — з фондаў вышэйзгаданага музея ў Мядзеле, а таксама Дзяржаўнага літаратурна-мастацкага музея Якуба Коласа, Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Рэспублікі Беларусь, а таксама з асабістых архіваў М. Захарэвіч, Я. Пясецкага і інш.

Мне пашчасціла пазнаёміцца з Марыяй Георгіеўнай у красавіку 2010 года ў мінскай бібліятэцы № 15, дзе мы разам выступалі на вечары «Сем цудаў Беларусі» паэтычнага тэатра «Арт. С». Імпрэза была прысвечана Нарачанскаму краю, адкуль родам вялікая актрыса. Нездарма яе называюць Нарачанскай Чайкай. Дарэчы, менавіта так называецца кніга У. Ліпскага, урывак з якой змешчаны ў нашым зборніку. Пашчасціла мне выступаць з Марыяй Георгіеўнай неадночы. Я чуў ужываю, як яна чытае вершы беларускіх класікаў. Марыя Захарэвіч — сапраўдны майстар слова. Яна не проста прамаўляе тэкст — здаецца, пражывае тое, пра што гаворыцца ў вершы…

**— Ці лёгка было рыхтаваць кнігу ў супрацоўніцтве з вядомай актрысай?**

— І сапраўды, слова «супрацоўніцтва» вельмі пасуе, калі распавядаць пра гісторыю стварэння кнігі. Можна сказаць, што Марыя Георгіеўна таксама ўдзельнічала ў праекце, хаця некаторыя сакрэты нашай выдавецкай «кухні» мы імкнуліся захаваць да апошняга — да прэзентацыі зборніка, што адбылася ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы 28 лістапада. Хочацца нагадаць, што Марыя Захарэвіч — надзвычай сціплы чалавек, таму, нягледзячы на нашы памкненні, так бы мовіць, «разгарнуцца напоўніцу», заўсёды ўлічвалі пажаданні Марыі Георгіеўны па тым ці іншым пытанні.

**— Вы гаварылі з легендай у тым ліку і пра легендарных асоб у беларускай культуры, з якімі яна была знаёмая. Мелі магчымасць зразумець тую эпоху?**

— Перш за ўсё хацелася даведацца пра невядомыя старонкі яе жыццёвай і творчай біяграфіі. Напрыклад, пра ўдзел М. Захарэвіч у пасяджэнні арганізацыйнага камітэта Савецкага фонду культуры, якое адбылося ў Маскве. Прычым, што важна, ад Беларускай ССР былі запрошаны толькі Марыя Захарэвіч і Васіль Быкаў. Усяго ў спісе было 135 чалавек, сярод якіх — Расул Гамзатаў, Валянцін Распуцін, Чынгіз Айтматаў, Мая Плісецкая, Кірыл Лаўроў, Святаслаў Рыхтэр, Людміла Зыкіна…

Калісьці Рэнэ Дэкарт сказаў: «Чытанне добрых кніг — гэта размова з самымі лепшымі людзьмі былых эпох». Каб зразумець эпоху, якую ўвасаблялі Іван Шамякін, Максім Танк, Уладзімір Караткевіч і іншыя нашы класікі савецкага часу (менавіта пра гэтых пісьменнікаў распавядала Марыя Георгіеўна), трэба чытаць іх творы, ведаць біяграфію. А падчас інтэрв'ю М. Г. Захарэвіч расказвала перш за ўсё пра чалавечыя, асабістыя стасункі з гэтымі творцамі. Напрыклад, пра пісьмы, якія яна атрымлівала ад Уладзіміра Караткевіча, калі ляжала ў бальніцы пасля аварыі, або пра апошнюю сустрэчу з Максімам Танкам у яго хаце… Кожную эпоху вызначаюць лепшыя з нас. Яны — нашы праваднікі ў часе, тыя зоркі, што асвятляюць шлях.

**— Марыя Георгіеўна ўсё жыццё прысвяціла аднаму тэатру. Ці ідзе ў людзі сама? З чым і дзеля чаго?**

— Доктар мастацтвазнаўства, прафесар Рычард Смольскі так гаворыць пра Марыю Захарэвіч: «Беларускаму тэатру пашанцавала, што яго "тварам" стала разам з іншымі выдатнымі майстрамі сцэны менавіта М. Г. Захарэвіч з яе асаблівай натуральнай прыгажосцю, унутранай далікатнасцю і цэлпай абаяльнасцю. Таму яе сцэнічныя вобразы <…> заўсёды вылучаюцца арыгінальнай мастацкай выразнасцю, жыццёвай дакладнасцю, глыбінёй і маштабнасцю сэнсавых абагульненняў». Галоўны рэжысёр Купалаўскага тэатра Мікалай Пінігін заўважае, што «Марыя Захарэвіч — сонечны чалавек з чароўнай усмешкай. Яна — надзвычай сціплая, ураўнаважаная і вельмі абаяльная»; што, акрамя

*— Для Марыі Захарэвіч самае лепшае месца на планеце Зямля — гэта родная вёска Навасёлкі на Мядзельшчыне, бацькоўская хата.*

работы ў тэатры, Марыя Георгіеўна «займаецца асветай» — ніколі не адмаўляецца выступаць у музеях і бібліятэках; што яна цудоўна, як ніхто, ведае беларускую паэзію.

Асобна хочацца сказаць пра работу Марыі Георгіеўны Захарэвіч на Беларускім радыё, дзе яна пранікнёна чытае вершы беларускіх паэтаў. Не ўсе ведаюць, што Дзяржаўную прэмію вялікая актрыса атрымала за ўдзел у радыёспектаклях «Рыбакова хата» паводле Якуба Коласа і «Хамуціус» паводле Аркадзя Куляшова. «Для мяне голас Марыі Захарэвіч — душа Беларусі. Светлы, глыбокі, ледзь засмучаны, цнатлівы, з прыхаванай таямніцай», — так сказаў пра вялікую актрысу мастацкі кіраўнік НАДТ імя Якуба Коласа Валерый Анісенка. Як гаворыць сама Марыя Георгіеўна, «калі ў розных кутках Беларусі, нават у самых аддаленых вёсачках, людзі пазнаюць мяне па голасе, — гэта найвышэйшая ўзнагарода».



*Марыя Захарэвіч падчас прэзентацыі кнігі прымае віншаванне Дзмітрыя Пятровіча.*

**— Якія ролі Марыі Захарэвіч найбольш дарагія ёй самой?**

— Сярод шматлікіх жаночых вобразаў, увасобленых Марыяй Георгіеўнай на сцэне і кінаэкране, галоўным

*Я чуў «ужываю», як яна чытае вершы беларускіх класікаў. Марыя Захарэвіч — сапраўдны майстар слова. Яна не проста прамаўляе тэкст — здаецца, пражывае тое, пра што гаворыцца ў вершы…*

вялікая актрыса лічыць вобраз Маці. Прыкметна тое, што менавіта ў гэтым вобразе Марыя Захарэвіч выступала ў 1982 годзе на Мамаевым кургане падчас Усесаюзнай сустрэчы ветэранаў Сталінградскай бітвы. Там Марыя Георгіеўна пазнаёмілася з легендарным дыктарам Юрыем Левітанам. Той высока ацаніў выступленне М. Захарэвіч, пацалаваў ёй руку і падарыў на памяць каляндарык. Гаворачы пра свае тэатральныя работы, Марыя Георгіеўна адзначае, што іграла разнапланавыя ролі. Гэта, напрыклад, Камісар у «Аптымістычнай трагедыі» і Мона ў «Безымённай зорцы», Варвара ў «Навальніцы» і Ганна ў «Людзях на балоце»… Цікава і тое, што Марыя Захарэвіч прымерала і амплуа рэжысёра, паставіўшы некалькі спектакляў, у тым ліку «Я не пакіну цябе…» (па п'есе М. Саймана «Інструкцыя па выжыванні для *Old Ladies*»), дзе іграла з Наталляй Гайдай.

Што тычыцца кінаработ, Марыя Георгіеўна любіць іх усе без выключэння, з асаблівай цеплынёй гаворыць пра рэжысёраў, якія запрашалі здымацца. Гэта Віктар Тураў, Юрый Цвяткоў, Міхаіл Пташук і іншыя. Дарэчы, дубліраванне фільмаў, агучванне іншых акцёраў яна таксама лічыць вялікай справай. «Агучыць — гэта значыць зрабіць ролю», — кажа Марыя Георгіеўна. Лёсавызначальнай у жыцці лічыць сустрэчу з яе настаўнікам — народным артыстам БССР Канстанцінам Саннікавым, які пасля яе першага спектакля на Купалаўскай сцэне падарыў сваё фота з надпісам: «Марыйка! Не супакойвайся!»

**— Што вас больш за ўсё ўражвае ў Марыі Захарэвіч — як у жанчыне, актрысе, чалавеку?**

— Для Марыі Захарэвіч самае лепшае месца на планеце Зямля — гэта родная вёска Навасёлкі на Мядзельшчыне, бацькоўская хата. І — дзве бярозы, якія калісьці пасадзіў Георгій Мікалаевіч, бацька актрысы. Яна не стамляецца паўтараць, што ніколі не прадасць родную хату.

Запомнілася інтэрв'ю Зіновія Прыгодзіча (дарэчы, назва гэтага інтэрв'ю — «Талент, адухоўлены любоўю» — дала назву ўсёй кнізе), дзе ідзе размова пра выступленне Марыі Захарэвіч у 1989 г. на пленуме Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі. Калі атмасфера ў зале распалілася настолькі, што нельга было трываць, эмоцыі захліснулі людзей, слова папрасіла Марыя Георгіеўна. З высокай трыбуны яна выказала сваю пазіцыю: «Сапраўдныя інтэлігенты заўсёды, перш чым кідаць абвінавачванне каму-небудзь, найперш прад'яўлялі прэтэнзіі да сябе…» Яшчэ некалькі слоў — і пасыпаліся канструктыўныя прапановы: людзі ўспомнілі, дзе яны знаходзяцца і што яны — сапраўдная інтэлігенцыя…

Шмат гадоў Марыя Захарэвіч разам з вядомымі дзеячамі культуры, святарамі ўдзельнічае ў культурна-асветніцкай экспедыцыі «Дарога да святыняў» з Дабратворным Агнём ад Труны Гасподняй. Падчас сустрэч у беларускіх вёсках, аграгарадках з юнакамі і дзяўчатамі актрыса гаворыць пра сапраўдныя каштоўнасці («Вы павінны даражыць сваімі бацькамі — не грашыма»), пра «найбагацейшую беларускую літаратуру, якой па праве можна ганарыцца», заклікае больш чытаць, любіць роднае слова, сваю Бацькаўшчыну.

Вось некалькі паэтычных радкоў, якія я прысвяціў ёй, Жанчыне з вялікай літары:

*Гарац і гаснуць вечнасці агні,*
*Нібыта рампа на вялікай сцэне.*
*Прасветлены душы чысцюткай німб*
*Ваш бачу… Вечна юнай Мельпамене*

*Вы служыце, і дорыце любоў*
*Да бліжняга, і моліцеся Богу,*
*Каб мы душою прасвятлелі зноў,*
*Каб не забылі да святынь дарогу.*

*Вы дорыце нам веру ў прыгажосць.*
*І словы Вашы — быццам літургія.*
*Мы ганарымся тым, што Вы ў нас ёсць —*
*Святая наша з іменем Марыя…*

# ГІСТАРЫЧНЫЯ ШАНСЫ

## беларускага кінематографа

**17 снежня адзначаецца Дзень беларускага кіно. Багатую гісторыю айчыннага кінематографа клапатліва зберагаюць у Музеі гісторыі беларускага кіно. Яго кіраўнік, Ігар Алегавіч Аўдзееў, дапамог разабрацца ў экспазіцыі, самых касавых айчынных стужках і цікавых падзеях у жыцці айчыннага кінематографа.**

### ДОТЫК ДА ГІСТОРЫІ

Першай беларускай стужкай (з пазначэннем у цітрах «вытворчасць "Белдзяржкіно"»), якая з'явілася на экранах кінатэатраў, была «Лясная быль» Юрыя Тарыча. Рэжысёр перанёс на экран гісторыю «Свінапаса» Міхася Чарота. Айчыннае кіно пачалося з экранізацыі, якая праз гады стала культавым фільмам.

Гісторыя беларускага кінематографа працягвалася, у ім былі яркія і цікавыя падзеі, новыя стужкі, пра якія, на жаль, не кожны з нас ведае. Але вучыцца ніколі не позна — да таго ж, для гэтага ёсць Музей гісторыі беларускага кіно. Ігар Алегавіч адзначае:

— У музеі ёсць журнал наведвальнікаў, і гэта свайго роду партрэт людзей, якія да нас ходзяць, — мэтанакіравана ці выпадкова. Што тычыцца цікавасці да гісторыі беларускага кіно, то яна, безумоўна, ёсць. Як элемент цікавасці да гісторыі краіны наогул. Гэта ўсё ж амаль стагадовая зваротная перспектыва. Канечне, музею яшчэ далёка да паказчыка «нас наведалі ўсе», але наведвальнікаў хапае. У тым ліку і замежных, якіх асабліва многа ў час школьных вакацый і летам.

У Музеі гісторыі беларускага кіно варта ўбачыць усё — нельга сказаць, што там неахопная экспазіцыя, але тое, што ёсць, уражвае не толькі істотнасцю, але і разуменнем, што гэта дотык да гісторыі, да мастацтва.

— Канцэпцыя экспазіцыі — у тым, каб перадусім уключаць у сучасны культурны кантэкст тыя помнікі беларускай кінакультуры, якія захаваліся ў часе, за якія не сорамна ў XXI стагоддзі, якія могуць выконваць свае функцыі мастацкіх твораў і сёння. Калі мець на ўвазе не толькі наша ігравое кіно, але і кінадакументалістыку, і анімацыю, то такіх стужак у нас не так ужо і мала. Задача музея — наладзіць эфектыўную камунікацыю паміж помнікамі кінакультуры і сучасным грамадствам, што мы і робім у розных формах. Шэраг карцін (у плане сваіх мастацкіх вартасцей) займаюць у гісторыі айчыннага кінематографа не самае пачэснае месца, але ў сувязі з іх вытворчасцю нешта ў беларускім кіно адбывалася ўпершыню. Таму на гэтых фільмах мы таксама робім акцэнт: першы гукавы фільм на беларускай мове, першы каляровы фільм і г. д.

Кажуць, што кіно дапамагае стварыць вобраз нацыі, адлюстраваць яе погляд на свет. Але так было не заўсёды — часам фільмы абумоўлены пэўным перыядам у гісторыі і дэманструюць не толькі тое, пра што сказаць хочацца ці варта, але ў большай ступені тое, што трэба.



Ці не таму беларускае кіно ўспрымаецца некаторымі як кіно асобных з'яў-прарываў, асобных стужак і асобных рэжысёраў?

— Чым сучаснае беларускае кіно адрозніваецца ад тых кінематаграфій, якія зараз шырока прадстаўлены ў нашым кінапракаце ў форме разнастайных тэматычных паказаў? — разважае Ігар Алегавіч. — Усе гэтыя фільмы — таксама выдуманыя гісторыі, але яны абапіраюцца на жыццёвыя рэаліі — «балявыя кропкі» часу, актуальныя праблемы. Гэта натуральная мастацкая рэфлексія на тое, што адбываецца вакол. Наша ж кіно, на жаль, часта абапіраецца на міфы. Ці не таму яно не карыстаецца вялікім попытам?

Кіно — гэта люстэрка, якое трэба час ад часу «падносіць» грамадству, каб яно карэкціравала сваё аблічча да лепшага. Фільмы «маральнай занепакоенасці» павінны існаваць ва ўсіх кінематаграфіях.

### З ДУШЭЎНЫМ БОЛЕМ

Праблема нацыянальнага кіно мае і іншыя аспекты.

— Лазніца, які зняў свой фільм «У тумане» на грошы замежных спонсараў, звяртаецца да беларускага матэрыялу, трактуе Васіля Быкава, таму, безумоўна, гэта твор нацыянальнага кіно. Не ў сэнсе арганізацыйнага паходжання, а ў сэнсе «істоты справы». Усё ж важным крытэрыем для фільма нацыянальнага з'яўляецца яшчэ і душэўны боль, каб кіно было не чарговым праектам.

Душэўнага болю ў айчынных рэжысёраў хапала заўсёды — адтуль і карціны, якія глядзелі далёка за межамі



Фота музейнай экспазіцыі.

Савецкага Саюза. Сапраўдны «згустак» болю, напрыклад, — стужка «Ідзі і глядзі» Алеся Адамовіча і Элема Клімава:

— Гэта падыход, выпакутаваны стагоддзямі ўдзелу ў чужых войнах. Пацыфісцкі пафас фільма ў тым, што вайна павінна быць выключана з шэрагу сродкаў вырашэння грамадскіх канфліктаў як несумяшчальная з чалавечым жыццём. Гэта карціна, знятая ў 1985, на жаль, стала яшчэ больш актуальнай сёння.

Акрамя ўспамінаў пра «Ідзі і глядзі», у Музеі гісторыі беларускага кіно захоўваюць і кавалачкі іншых кінагісторый. Ігар Алегавіч памятае, як аднойчы на экскурсію завітаў кіеўскі журналіст — хацеў адкрыць для сябе новы пласт беларускай гісторыі. Пасля прагляду экспазіцыі спытаў, якую нашу стужку можна назваць візітоўкай беларускага кіно:

— Гэта было пытанне «на засыпку», але яно стала падставай для дыскусіі. Мы сабралі кіназнаўцаў і высветлілі, што візітоўкай нацыянальнага беларускага кіно можа стаць сацыяльная драма «Чужая бацькаўшчына» Валерыя Рыбарава па матывах аднайменнага рамана Вячаслава Адамчыка. Чаму? Гэта карціна, якая распавядае пра лёс маладога беларускага паэта, які спрабуе рэалізаваць свой прыродны талент ва ўмовах польскай акупацыі. Канечне, гэта прыватная гісторыя, але яе трэба ўспрымаць як метафару праблемы: як чалавеку, які ўсведамляе сябе беларусам, захаваць сваё «я», права на свае голас, песню, мовы ў неспрыяльных абставінах. Геапалітычнае становішча Беларусі такое, што на нашай тэрыторыі сутыкаецца шмат чужых інтарэсаў. Можна сказаць, што фільм закранае праблему для нас пазачасавую, лёсавызначальную.

Самыя значныя беларускія стужкі, самыя цікавыя і сапраўды вартыя прагляду, базуюцца на беларускай літаратуры. Ужо згаданыя «Чужая бацькаўшчына» і «Ідзі і глядзі» — гэта толькі кропля ў моры. Ігар Аўдзееў нічога незвычайнага ў гэтым не бачыць, бо дзе ж яшчэ шукаць натхнення і беларускага погляду на жыццё? Канечне, у літаратуры:



— Але не кожны пісьменнік можа думаць кінематаграфічна. Літаратура і кіно — розныя віды мастацтва, таму не ўсе перажыванні персанажаў можна перанесці на экран. Пісьменнікі часта гэтага не разумеюць і крыўдзяцца, што іх не экранізуюць ці экранізуюць дрэнна. Але не ўсе тэксты кінематаграфічныя — там можа быць не закладзеная тая вобразнасць і метафарычнасць, якую лёгка перанесці з дапамогай кіно. Алесь Адамовіч, напрыклад, скончыў курсы сцэнарыстаў, у выніку атрымалася карціна «Ідзі і глядзі», якая бездакорная ў большай ступені. І поспех гэтага закладзены менавіта Адамовічам як сцэнарыстам — рэдкі выпадак у гісторыі сусветнага кіно, калі вынік на 98% супадае з задумай.

### АКЦЭНТ НА НАЦЫЯНАЛЬНЫМ

Але, безумоўна, не толькі экранізацыі беларускіх твораў прыцягвалі ўвагу да айчыннага кіно. Напрыклад, самым паспяховым у пракаце за ўсю гісторыю беларускага кіно быў фільм Валерыя Рыбарава «Мяне завуць Арлекіна». Аўтары адлюстравалі актуальныя праблемы моладзі 80-х гг., і глядач аддзячыў ім праглядамі: за 15 месяцаў кіно паглядзелі 42 мільёны чалавек ад Брэста да Уладзівастока. Ігар Аўдзееў адзначае, што гэтае кіно сапраўды трапіла ў «нерв часу». Другі рэкардсмен — народная камедыя «Белыя росы» — пра тыповае становішча беларуса, які адной нагой у горадзе, другой — у вёсцы, у памежным стане. Складнікамі поспеху тут сталі яшчэ і выдатныя акцёры і ўвасобленыя імі вобразы. На трэцім месцы — дзіцячы прыгодніцкі фільм Льва Голуба «Дзяўчынка шукае бацьку», які да таго ж абсалютны геаграфічны рэкардсмен беларускага кіно: у свой час ён быў прададзены для камерцыйнага пракату ў 83 краіны свету.

Магчыма, дзень беларускага кіно — нагода паглядзець добрае айчыннае кіно XX стагоддзя, а калі і не, то хоць бы ўзгадаць пра важныя, але падзабытыя зараз падзеі і з'явы з яго гісторыі. Напрыклад, пра тое, для чаго наш кінематограф ствараўся, — кіно было прызнана самым важным з мастацтваў, у Беларусі яго выкарыстоўвалі ў тым ліку і для таго, каб уплываць на працэс станаўлення нацыі. Гэта заўважна і па рэпертуары нашай кінастудыі ў 20-я гады мінулага стагоддзя.

Першы перспектыўны план вытворчасці беларускіх мастацкіх фільмаў, які быў складзены літаральна праз некалькі дзён пасля пачатку працы ўпраўлення «Белдзяржкіно», адкрываўся (пад нумарам 1) праектам «Кастусь Каліноўскі» пра народнага героя, што было зусім натуральна: станаўленне беларускага кіно адбывалася ва ўмовах нацыянальнага адраджэння.

Яшчэ варта ўзгадаць пра тое, што «Белдзяржкіно» стваралася як арганізацыя дзяржразліковая і ўжо праз паўгода працы стала рэнтабельнай! І гэта нягледзячы на тое, што яшчэ не было прададзена (тым больш — знята) ніводнай стужкі! Справа ў тым, што ў падначаленне «Белдзяржкіно» перадаваліся ўсе нацыяналізаваныя кінатэатры ў Беларусі (спачатку літаральна 4 — па 2 у Мінску і Віцебску), а прыбытак ад паказу замежных фільмаў накіроўваўся на ўласную кінавытворчасць.

«Найважнейшае з мастацтваў» было важным для беларусаў у XX стагоддзі, але і ў XXI яно працягвае ўсімі магчымымі (і немагчымымі) спосабамі адстойваць свае правы на існаванне, адметны погляд на свет і на ўвагу гледача.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР,**
**фота аўтара**

# Адчуць сябе чалавекам

## Як хор уздзейнічае на нашу свядомасць

**Кожнаму народу патрэбна яднанне: адчуць сябе адзіным цэлым, правесці разам час, наталіцца песняй. Найлепшы прыклад яднання праз песню — Спеўнае поле ў Таліне, на якім штогод збіраюцца каля 20 тысяч гледачоў, а яшчэ каля 15 тысяч спяваюць.**
**Зараз там плануюць будаваць такое ж поле — людзі трымаюцца спеваў, шануюць музыку, а галоўнае — разумеюць яе. Што адбываецца з беларускай харавой музыкай, як пазбегнуць стэрэатыпаў, быццам хор — сумна? Пра гэта наша размова з кіраўніком студэнцкага хору Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Інэсай Бадзяка.**

### ЗБЕРАГАЮЧЫ ТРАДЫЦЫІ

Нядаўна ў Мінску завяршыўся IV адкрыты конкурс харавых дырыжораў імя В. У. Роўды. Хлопцы і дзяўчаты з 6 краін свету змагаліся ў дырыжорскім майстэрстве, а дапамагаў ім у гэтым студэнцкі хор. Сёлета ў калектыву было багатае канцэртнае жыццё: акрамя ўдзелу ў конкурсе, хор выступаў у Вільнюсе, Шанхаі, Санкт-Пецярбургу. Хутка артысты паедуць у Мадрыд.

Нягледзячы на поспех нашага студэнцкага хору, не ўсе яшчэ адышлі ад стэрэатыпу пра тое, што хоры — гэта сумна. Крыўдна, бо сучасны хор — гэта не выкананне народных песень, некаторыя з якіх ужо аджылі сваё. Інэса Бадзяка, змагаючыся з устойлівымі меркаваннямі, кажа, што для яе хор сумным ніколі не быў: «Здаецца, так мяркуюць тыя, хто не спяваў у хоры. Хто меў дачыненне да хору, так казаць не будзе. У нас вельмі часта здараецца, што студэнты, якія спяваюць у хоры, запрашаюць на свае канцэрты сяброў. І не памятаю, каб хтосьці сыходзіў з залы незадаволеным».

Інэса Міхайлаўна працуе з хорам ужо 10 год, лічыць яго трэцім дзіцём. Але гэтае дзіця з'явілася яшчэ раней — на працягу 45 год хорам кіраваў Віктар Уладзіміравіч Роўда: «Кажуць, вялікае бачыцца на адлегласці. У прафесара Роўды не было дзяцей, таму ўсё жыццё ён аддаваў харам, з якімі працаваў. Узгадваю яго рэжым дня. Працаваў з раніцы да вечара: праводзіў лекцыі, кіраваў харамі, хадзіў на канцэрты, а на выхадных рабіў абход па мінскіх храмах — слухаў, сам спяваў, дырыжыраваў. Без Роўды харавое жыццё збяднела, хоць яго асоба была неадназначнай: ён быў чалавекам аўтарытарным, бо неабходна арганізоўваць людзей у сутворчасць, рознапланавых, але будучыня уплываць на вынік. Таму яго асоба для мяне — гэта асоба чалавечага подзвігу».

Студэнцкі хор акадэміі музыкі і да сённяшніх дзён захоўвае традыцыі настаўніка і кіраўніка. Інэса Бадзяка працягвае справу майстра — працуе з харам у традыцыях Роўды, а сам Роўда кіраваўся правіламі свайго настаўніка Аляксандра Васільевіча Свешнікава. Інэса Міхайлаўна адзначае, што самае важнае для хору — яго гучанне: «Слова — літара — гук павінна быць у гучанні хору: адзіная манера, зразумелая для слухача словы. Бо часта менавіта з-за неразумення слоў не любяць тую ж оперу. Але для разумення музыкі, для выхавання любові да яе патрэбен час. І гэта нястрашна — музыка не павінна быць дасяжнай для кожнага адразу».

### СПОСАБ З'ЯДНАННЯ

Пасля працы ў хоры студэнты пойдуць у дзяржаўныя калектывы — такі шлях чакае ўжо выпускнікоў Акадэміі музыкі: «Яны змяняюцца, я змяняюся. Ужо шмат часу мы разам, але мая асноўная задача — каб яны сталі разнастайнымі, каб спрабавалі ўсё, бо невядома, кім прыйдзецца працаваць у будучыні, таму я раблю так, каб у іх быў увесь спектр адчуванняў ад розных стыляў. Спрабую папулярызаваць беларускіх кампазітараў, але хачу, каб яны ўяўлялі, што робіцца ў іншых харавых дзяржавах. Я імкнуся выхаваць і проста прафесійнага музыканта. Гэта не значыць усеяднасць, але нельга існаваць і ў аднастайнасці».

А пакуль хор для музычнай моладзі — спосаб яднання. Раней для яго існавалі ўрокі спеваў, была папулярная мастацкая самадзейнасць. Студэнты Інэсы Бадзяка з Кітая распавядаюць, што яшчэ дзесяць год таму хароў там было няшмат, але людзі так моцна жадаюць спяваць, што самі ствараюць калектывы, і колькасць іх значна расце. У тых жа краінах Прыбалтыкі ў кожнай школе ёсць свой хор. Часам нават некалькі: «Хор, як і аркестр, — гэта спосаб яднання і калектыўных зносінаў. Мы спяваем шэдэўры, якія шліфаваліся з часам, сутыкаемся з каштоўным мастацтвам. Ёсць рэчы, якія ствараюць культурную праслойку ў чалавечым мозгу».

Яшчэ адзін са стэрэатыпаў — што хары спяваюць толькі музыку мінуўшчыны, што сучаснага тут шукаць не варта. Насамрэч ёсць пермскі моладзевы хор «Млада», які працуе з сучаснай музыкай, — можна пачуць нават «Бі-2». Не саступае і хор Акадэміі музыкі: музыкі перапрацоўваюць песні Real Group, Rajaton, гэта гурты вядомыя асабліва ў Еўропе. Толькі прыгожага, чыстага гуку сёння мала, каб зацікавіць слухача. Таму хор Акадэміі музыкі выкарыстоўвае і прыёмы з эстрады — відэашэраг, светавую рэжысуру. Акрамя таго, Інэса Бадзяка асаблівую ўвагу надае папулярызацыі твораў беларускіх кампазітараў: «Ці ўсе жыхары нашай краіны ведаюць, што ў нас была і ёсць вялікая колькасць кампазітараў: Канстанцін Горскі, Іосіф Казлоўскі, Станіслаў Манюшка, Андрэй Мдзівані, Алег Хадоска і іншыя? Сучасныя кампазітары зараз спрабуюць сябе папулярызаваць. Напрыклад, Канстанцін Яськоў стварыў харавую сімфонію ў стылі фолк-ф'южн, мы выконваем творы Андрэя Саўрыцкага, які стаў лаўрэатам Нацыянальнай музычнай прэміі».



*Студэнцкі хор Акадэміі музыкі.*

### КАТАРСІСНЫЯ АДЧУВАННІ

Сутнасць харавога мастацтва не толькі ў тым, каб яго слухалі. Яно неабходнае для самаго чалавека. Вядома, хор — гэта з'ява не музычнага бізнесу, але ў чымсьці яны падобныя: чым больш будзе калектываў, тым больш прыйдзе слухачоў. Інэса Бадзяка адзначае: «Харавое мастацтва — самы хуткі шлях унутранага выхавання чалавека, бо інструменты не патрэбныя. Гэта дэмакратычна і танна па сутнасці, але вельмі каштоўна па змесце, што можа многае даць чалавеку. Тут пытанне таго, што стварэнне ідэй, кансалідацыя, нашмат больш важнае за ўсё іншае».

Кіраўнік хору адзначае, што ёсць грамадствы, дзе харавую музыку не разумеюць. Прыводзіць прыклады, што студэнты часта кажуць пра музыку, маўляў, «не падабаецца». Інэса Міхайлаўна пытаецца, ці вывучылі яны гэта: «Калі пачынаеш вывучаць нешта, абавязкова спадабаецца. Ты пачынаеш шмат чаго разумець, і гэта ўжо будзе не ўзровень "падабаецца — не падабаецца", а "блізка — не блізка"».

Далёкая харавая музыка становіцца блізкай вельмі хутка. У той момант, калі чалавек пачынае шукаць у жыцці чагосьці асаблівага, моманту шчасця, лічыць Інэса Бадзяка: «У звычайным жыцці людзі снедаюць, бягуць на працу, але кожны хоча для душы светлага моманту ў сэнсе адчуванняў: знайсці штосьці незвычайнае, шчасце, якое не вымяраецца матэрыяльным, а тым, наколькі табе добра. Мне падаецца, што музыкант часта знаходзіцца ў гэтым стане душы, бо музыка і ёсць боскае стварэнне. І калі чалавек трапляе ў якаснае выкананне шэдэўра музыкі, то знаходзіцца ў атмасферы любові і цяпла, адчувае сябе чалавекам. Я не раз чула водгукі людзей пасля выступленняў, і ўсе кажуць менавіта пра гэта — пра катарсічныя адчуванні, пра адпачынак і адчуванне сябе чалавекам. Харавая музыка праз голас, як вібрацыя паветра вакол нас, уплывае на чалавека як цуд — не толькі на вушы, але і на сэрца. Чалавек вось гэтага ў жыцці шукае, але не ведае, што гэта могуць даць харавыя канцэрты».

Калі ўявіць сабе Сусвет і колькасць зорак, то музыка прыкладна столькі ж, колькі зор. Для розных сітуацый у жыцці, рознай велічыні: ад «Неапалітанскай песенькі» Чайкоўскага і «Італьянскай полькі» Рахманінава з іх «танцавальным запалам» да глыбокай сур'ёзнасці кантат Губайдулінай. Музыка, якая раней прыносіла людзям задавальненне, выхоўвае і цяпер. Бо нікога не адпускае ідэя стварыць тое, што не паддаецца тлумачэнню. Жаданне зазірнуць у сябе і знайсці водар жыцця. У харавой музыцы ўсё гэта ёсць. Упэўнілася на ўласным досведзе.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# З любоўю да роднага

**У Беларускай дзяржаўнай філармоніі 16 снежня адбудзецца юбілейны канцэрт фальклорнага ансамбля «Купалінка» — сёлета калектыву спаўняецца 50 гадоў. Свой творчы шлях ён пачынаў як вакальны квартэт акапэла, а сёння «Купалінка» — гэта вядомы не толькі ў Беларусі, але і за межамі ансамбль, які знаёміць слухачоў з беларускай народнай музычнай культурай.**

У рэпертуары калектыву — народныя песні, музыка і танцы з усіх рэгіёнаў Беларусі. Пад кіраўніцтвам народнай артысткі Алены Цяльковай «Купалінка» змянілася: артысты ўзялі за аснову народную форму выканання, пачалі выкарыстоўваць змешаныя спевы з інструментальным суправаджэннем.

«Купалінка» шукала адметную сцэнічную форму, рухалася да мастацкага ўдасканалення і паглыблялася ў сутнасць народнай традыцыі.

Змянілася, канечне, многае, але шмат што засталося і традыцыйным — напрыклад, паэтычнае імя «Купалінка», якое гурт атрымаў ад вядомай беларускай песні, дадзенае стваральнікам і духоўным бацькам калектыву, народным артыстам СССР Генадзем Цітовічам. Канцэртныя нумары ансамбля па-ранейшаму звязаныя адзінай драматургіяй: рухі, гумар і танцы — усё разам дапамагае глыбока і вобразна раскрыць змест песень.

Сёння «Купалінка», калектыў Белдзяржфілармоніі, запатрабаваны ў краіне і ў замежжы. «Купалінка» прадстаўляе нацыянальнае мастацтва праз безліч канцэртаў па Беларусі, на дзяржаўных і міжнародных мерапрыемствах у Расіі, краінах Прыбалтыкі, Канадзе, Люксембургу, Германіі, Бельгіі, Францыі, Югаславіі, Італіі, Сірыі, Карэі, Фінляндыі, Вялікабрытаніі, амаль па ўсім свеце.

Ансамбль «Купалінка» — лаўрэат усесаюзных і міжнародных конкурсаў і фестываляў, уладальнік залатых медалёў. Сваёй творчасцю музыканты захоўваюць, адраджаюць і папулярызуюць традыцыі, звычаі беларускага народа, а сваім мастацтвам — спрыяюць узнёслым адносінам да роднага.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Філасофія металу

## праз прыклады скарэння непадатлівага матэрыялу

**У асяроддзі творчых людзей існуе думка, што кожны мастацкі выраб мае душу, якая можа быць рознай, як і ў чалавека. Нават у творах, зробленых з халоднага металу, адчуваецца душэўная цеплыня: мастак цалкам укладаецца ў работу, праз матэрыял спрабуе данесці важныя думкі, якія мусіш адчуць, зразумець. У галерэі «Акадэмія» дэманструецца выстаўка мастацкага металу «*Metallum*», дзе экспануюцца арт-аб'екты, сярод якіх адчуваеш сябе нібы ў навукова-фантастычнай кінастужцы.**



*Арцём Лазар «Знойдзены (дракон)», 2016 г.*

У аснове экспазіцыі прадстаўлены творы са зварнога і кованага металу, ювелірныя вырабы. Мастакі дастаткова тонка падышлі да арганізацыі выстаўкі: калі рыхтавалі творы, метал паспрабавалі паказаць у розных праявах. Так, напрыклад, куратар і ў той жа час удзельнік выстаўкі Аксана Рагальская праз ювелірныя ўпрыгожанні дэманструе гледачу глыбіню чалавечага свету, мыслення і незалежнасць гэтых складнікаў ад матэрыяльных кампанентаў. Аксана стварае ўпрыгожанні з латуні, мельхіёру і фарфору ў тэхніцы плаўлення. Ёй падабаецца эксперыментаваць са спалучэннем разнастайных матэрыялаў, вывучаць іх магчымасці. Сяргей Чумакоў таксама займаецца ўпрыгожаннямі, толькі спалучае метал з дрэвам розных парод. Такім чынам яго работы набываюць рысы традыцыйнасці, нават старажытнасці. Брутальнасць металу аўтар сумяшчае з тонкасцю і пяшчотнасцю.

У экспазіцыі прадстаўлены некалькі твораў Пятра Кузьміча, які стварае жывапісныя творы з прымяненнем металу. У іх прагляддаецца тэма нацыянальнай культуры і рэлігіі. Мастак выклікае гледача на роздум пра каштоўнае, пра тое, без чаго ніколі б не было краіны, чалавека і нават свету. Захапляюць таксама творы Міхаіла Казловіча: мастак спалучае метал са шклом і люстрам. Спецыяльна да ўдзелу ў праекце ён стварыў стол з аўтамабільных запчастак і шкла: з аднаго боку, аб'ект выглядае як добры прыклад дызайнерскай мэблі, з іншага — дэманструе філасофскае разважанне над праблемамі зносін.

Калі гаворка заходзіць пра метал, адразу ж узнікае думка, што гэта больш мужчынскі матэрыял. Але ж мастацкім металам дастаткова часта зацікаўліваюцца і дзяўчыны. На гэты конт куратар выстаўкі Аксана Рагальская адзначыла:

— Самая важная асаблівасць металу — яго непадатлівасць. Метал вельмі няпросты матэрыял, аднак у ім ёсць свая маляўнічасць і эстэтыка. Не трэба думаць, што метал — гэта проста жалеза. Ён можа быць зусім розным і па адценнях, і па фактуры. Супрацьлегласці прыцягваюцца, таму мне, як дзяўчыне, цікава вывучаць гэты «моцны» матэрыял. І ёсць шмат дзяўчат, якія захапляюцца яго прыгажосцю. Я не кую і не раблю манументальныя работы, больш займаюся ювелірнай справай, у якой таксама свае асаблівасці і нюансы.

Між іншым, большасць прадстаўленых экспанатаў — доказ таго, што вырабы з мастацкага металу могуць выконваць функцыю ўпрыгожання дома, офіса і нават вулічнай прасторы. Некаторыя мастакі робяць посуд з металу, некаторыя спецыялізуюцца на мэблі і металічнай скульптуры. Але ж з продажам такіх экспанатаў узнікаюць пытанні: паколькі гэта ручная работа, то кошт большасці вырабаў не можа быць малым. Добра прадаюцца ювелірныя вырабы, але ж і тут не ўсё проста: у прафесійных майстроў усё часцей з'яўляюцца канкурэнты, якія не маюць належнай адукацыі, а спрабуюць асвоіць тэхналогію самі, у выніку іх вырабы больш танныя.

Выстаўкі мастацкага металу раней былі традыцыйнымі ў нашай краіне, а цяпер ладзяцца раз на тры гады. Арганізатары спадзяюцца, што атрымаецца зноў рабіць выстаўку кожны год і паказваць гледачам магчымасці матэрыялу: з'явіцца больш мастакоў, зацікаўленых гэтым відам мастацтва.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Твор Пятра Кузьміча.*

## Культурны ракурс



**Чачэрск — гарадок невялікі, ды выдатных мясцін шмат. Гэта і храм Праабражэння Гасподняга, вядомы з 1783 года, і вінакурня (цяпер вінны завод), і гаспадарчая пабудова графаў Чарнышовых-Кругліковых. З савецкага часу засталіся помнікі Уладзіміру Леніну і Карлу Марксу. Але сімвал Чачэрска — старажытная ратуша, якая была пабудавана яшчэ ў XVIII стагоддзі ў стылі архітэктуры класіцызму з элеменатамі псеўдаготыкі.**

**У 1774 годзе Екацярына II падарыла Чачэрск рускаму палкаводцу, генерал-губернатару Захарыю Чарнышову. Граф стварыў у мястэчку сіметрычны архітэктурны ансамбль з мураванай ратушай, вакол якой на аднолькавай адлегласці былі пабудаваны чатыры храмы: тры царквы і касцёл. Захаваўся толькі храм Праабражэння Гасподняга.**

**Чачэрская ратуша ўяўляе сабой мураваны двухпавярховы прамавугольны і цэнтрычны будынак, які завяршаецца пяццю драўлянымі чацверыковымі вежамі. Была адрэстаўравана ў 2003 годзе. Побач з будынкам усталяваны бюставы помнік графу Захарыю Чарнышову і памятны камень у гонар 840-годдзя з дня заснавання горада. У самой ратушы размяшчаецца Чачэрскі этнаграфічны музей, дзе беражліва захоўваецца гісторыя краю.**

**Максім ШАСТАКОЎ**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа дасылаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Д. А. Чарняўская

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 15.12.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1601.

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 4826

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686